ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 15 (2417) 13 красавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

ВЯЛІКАЯ Айчынная вайна 1941--1945 гадоў увайшла ў нашу гісторыю як небывалае па жорсткасці, трагізму і гераізму змаганне народа супраць гітлераўскага фашызму. Шлях да Перамогі, 50-годдзе якой будзе адзначацца ў гэтым годзе, быў доўгім і цяжкім.

Але цікавасць да падзей тых

Многа было яе нават у чыста ваенных справах, асабліва ў першыя месяцы і гады, калі пісаліся лжывыя рапарты, данясенні і зводкі, калі жадаемае па звычцы выдавалася за сапраўднае, калі дзеля ўзнагароды ці добрага стаўлення начальства гналі пад кулямёты салдат, усціпаючы іх трупамі схілы нікому іншы раз непатрэбных вышынь. Але гаварыць пра гэта

## ВАЙНА: ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ



далёкіх гадоў, да асэнсавання вынікаў і урокаў вайны не слабее, яна тлумачыцца і той вечнай роллю, якую адыграла вайна ў жыцці нашага народа, і часткова незадаволенасцю адказамі на многія пытанні, якія нараджаны ўжо нашым часам.

Вялікая вайна па волі і жаданню кіруючай сталінскай алігархіі з першага свайго дня была сцягнута моцнай сеткай хлусні. Дваццаць другога чэрвеня 1941 года зманіў Молатаў, у сваім выступленні па радыё сказаўшы, што **гітлераўская Германія напала на нас вераломна і знянацку.** Вераломна, напэўна. Але знянацку? Сёння дакладна вядома, што кіраўніцтву краіны і партыі былі загадзя вядомыя дзень і час пачатку вайны, сілы праціўніка і напрамкі, на якіх пачнецца баявыя дзеянні. Ёсць розныя тлумачэнні таго, чаму Сталін палічыў за лепшае кінуць пад бомбы мірныя гарады, знішчыць рукамі фашыстаў значную частку сваіх узброеных сіл, а не прыняў неабходныя меры для адпору захопнікам. Думаецца, што канчатковага адказу пакуль не існуе.

Дзіўна, што ён, які не верыў ніколі і нікому, раптам так слепа і безаглядна паверыў свайму палітычнаму праціўніку. Ці не лічыў Гітлера праціўнікам?

А вайна ўжо пакацілася па нашай зямлі, пакідаючы за сабой кроў, гора, слёзы. Можа быць, трагедыя была б крыху меншых маштабаў, калі б не пастаянная і самая разнастайная мана.

было не прыняты і нават небяспечна як у час вайны, так і пасля яе.

Вялікая колькасць мастацкай і дакументальнай літаратуры, выпушчанай па ваеннай тэматыцы, па сутнасці, так і не змагла запоўніць глыбокі правал у нашай гісторыі з берагамі сорак першага і сорак пятага гадоў. І не таму, думаецца, так адбылося, што аўтары гэтых твораў не валодалі матэрыялам. Многія з іх самі прайшлі франтавымі дарогамі і бачылі іх абочыны. Проста задача перад імі стаяла іншая: **расказаць не пра тое, што было на самай справе, а пра тое, што трэба, што патрабавала прапаганда.** Гэтая жорсткая ідэалагічная ўстаноўка вісела над нашай ваенна-гістарычнай навукай і над літаратурай так доўга, што значна дэфармавала ўвогуле ўсю праўду пра Вялікую Айчынную.

Думаю, што кіруючая тады ў краіне партыйна-бюракратычная алігархія праследавала тут адну галоўную мэту -- даказаць народу, што менавіта дзякуючы таму, што яна стаяла на чале дзяржавы і партыі, удалося выйграць гэтую найцяжэйшую вайну. І, такім чынам, навекі замацаваць у грамадскай свядомасці думку аб найвялікшых вартасцях нашага дзяржаўна-грамадскага ладу, аб бясспрэчнай мудрасці, празорлівасці і геніяльнасці яго авангарда і кіраўніцтва.

(Працяг на 3-й стар.).

# ДВА ВЯСНОВЫЯ ТЫДНІ Ў ЛЮТЫМ

## СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ Ў СВАБОДНЫМ ГРАМАДСТВЕ

Сёння для большасці журналістаў беларускіх газет пытанне камандзіровак, тым больш у далёкае замежжа, амаль не паўстае. Сродкаў ледзь хапае на выплату заробкаў, якія кожны месяц выплачваюцца ўсё з большай затрымкай. Але, калі ёсць уласная ініцыятыва, сёння існуе шэраг магчымасцяў палепшыць свае веды за мяжой у той ці іншай галіне. Недзе ў траўні мінулага года закінула я анкеты ў фундацыю "Рэйтэр" і амаль забылася пра іх. І вось у сярэдзіне студзеня, які для нашых журналістаў аказаўся даволі гарачым, калі вакол беларускай прэсы разгарэлася валтузня, выкліканая з'яўленнем на старонках газет "белых плям", атрымала я ад фундацыі "Рэйтэр" запрашэнне на стажыроўку. Адкрывалася магчымасць на свае ўласныя вочы пабачыць, як працуюць сродкі масавай інфармацыі ў цывілізаваным грамадстве. Часу на афармленне папер было няшмат. Але, дзякуючы садзеянню рэдакцыі, і пры дапамозе Міністэрства культуры і друку ўсё ўдалося зрабіць своечасова. Самы непрыемны момант -- атрыманне візы, за якой (нягледзячы на тое, што пасольства Вялікабрытаніі ў Мінску існуе ўжо каля двух гадоў) ехаць, як заўсёды, трэба ў Маскву. Калі я часам трапляю ў замежныя консульствы, мяне не перастае здзіўляць той факт, што працуючыя там людзі чамусьці па нахабству і грубасці перавышаюць любую нашу дзяржаўную ўстанову з самай дрэннай рэпутацыяй. Як бы там ні было, маючы візавую падтрымку ад "Рэйтар", галоўнае было трапіць у пасольства. І вось на пачатку лютага з зімовай бруднай Масквы прыляцела я ў зусім ужо веснавы стары Лондан. Дзенідзе на зялёным фоне традыцыйных ангельскіх газонаў жаўцелі нарцысы, квітнелі крокусы і нават дрэвы, падобныя на чарэшні, і іншыя, якіх у нас тут няма.

Фундацыя "Рэйтэр" існуе з 1982 года. Яна была ўтворана з мэтай дапамагчы журналістам трэцяга свету атрымаць адпаведную адукацыю ў Еўропе ці ЗША. Але з перадзелам сусветнай карты падчас перабудовы змяніліся як мэты, так і краіны.

-- Мы вельмі добра ведаем, якую ролю адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі ў свабодным грамадстве, і маем у гэтым багаты ўласны вопыт, -- кажа Стэфан Сомервіль, дырэктар фундацыі. -- Калі пачаў рушыцца Савецкі Саюз, а краіны Усходняй Еўропы атрымалі поўную незалежнасць, мы добра сабе ўяўлялі, што журналістам гэтых краін падчас пераходнага перыяду першачаргова спатрэбіцца дзейсная кароткатэрміновая перападрыхтоўка. Галоўныя прынцыпы, якім мы імкнёмся навучыць журналістаў, -- гэта дакладнасць, непрадузятасць, пэўнасць, адказнасць.

Сёння, азіраючыся назад, нават цяжка ўявіць, што за два тыдні можна было паспець столькі зрабіць і пабачыць. Тут нельга не адзначыць арганізацыйную працу стваральнікаў праграмы, дзе ўсё (уключаючы нават нейкія пераходы ці пераезды да іншых устаноў) было размалявана літаральна па хвілінах.

Стажыроўка мела практычны накірунак, і таму амаль кожны дзень большасць часу (а гэта з 9 да 17) мы практыкаваліся ў асвятленні міжнародных навін, што і было асноўнай мэтай праграмы. У якасці настаўнікаў выступалі былыя журналісты і рэдактары агенцтва (тут, дарэчы, можна адзначыць тое, як "Рэйтэр" цэніць і выкарыстоўвае свой прафесійны патэнцыял). Акрамя таго, праграма ўбірала ў сябе лекцыі ўжо сучасных супрацоўнікаў агенцтва, якія асвятляюць працу парламента, урада, Савета Еўропы і г.д., за якімі зноў ішлі практычныя заняткі. Цікава, што напісаныя артыкулы адразу правяраліся двума крытыкамі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



**"Мы ўсё больш і больш схіляемся да вашага вопыту і практычна ідзем вашым шляхам у рэфарміраванні эканомікі рэспублікі", -- заявіў Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка на сустрэчы з маршалам сената Польшчы Адамам Струзікам. Візіт дэлегацыі сената Рэспублікі Польшча на чале з Струзікам у Беларусь адбыўся 4--5 красавіка 1995 года.**

**Дэлегацыю прымалі на самым высокім узроўні. Усе сустрэчы бакі ацанілі як цалкам канкрэтныя і шматабяцаючыя. Зроблены яшчэ адзін крок на шляху збліжэння польскага і беларускага народаў.**

**НА ЗДЫМКУ: у час прыёму Прэзідэнтам Беларусі А. ЛУКАШЭНКАМ маршала сената Рэспублікі Польшча А. СТРУЗІКА.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ -- ПОЛЬШЧА*

## ПАДТРЫМКА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

У канцы сакавіка міністр культуры і друку Беларусі Анатоль Бутэвіч пабываў у Польшчы па запрашэнню міністра культуры і мастацтва гэтай краіны Казімежа Дэймека. У Варшаве яны падпісалі чарговы пратакол аб кантактах двух міністэрстваў у 1995--1996 гадах.

Значнае месца ў пратаколе адведзена забеспячэнню ўмоў для культурнага развіцця нацыянальных меншасцей: беларусаў -- у Польшчы, палякаў -- у Беларусі. Намечана падтрымка дзейнасці іх саюзаў, таварыстваў, перыядычных выданняў. Абедзве краіны маюць намер актывізаваць супрацоўніцтва ў галіне выдання перакладной літаратуры і кнігаабмену. Запланавана адкрыццё беларускага кніжнага магазіна ў Варшаве, а польскага -- у Мінску. Дакумент прадугледжвае таксама абмен дэлегацыямі журналістаў.

*ЮБІЛЕЙНЫ МЕДАЛЬ*



На гэтым здымку -- юбілейны медаль "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941--1945 гг." Напярэдадні Дня Перамогі яго ўручаць ваеннаслужачым і асобам вольнанаёмнага саставу, якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях на франтах, працаўнікам тылу, што былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, былым вязням канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны, партызанам... Уручэнне медаля будзе праводзіцца ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ*

## ВЫЛУЧАНА 2 439 КАНДЫДАТАЎ

Як паведаміў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Абрамовіч, усяго вылучана кандыдатамі ў дэпутаты новага парламента Беларусі 2 439 чалавек. Найбольшая палітычная актыўнасць, як і чакалася, дасягнута ў Мінску: 610 прэтэндэнтаў на 42 акругі. У абласцях колькасць вылучаных кандыдатаў менш чым 10 чалавек на месца: у Брэсцкай вобласці вылучана 272 кандыдаты (37 акруг), у Віцебскай -- 310 (37), Гомельскай -- 338 (40), Гродзенскай -- 252 (31), Мінскай -- 372 (41), Магілёўскай -- 285 (32). Як адзначыў А. Абрамовіч, гэта меней, чым чакалася. Акрамя таго, можна меркаваць, што частка вылучаных кандыдатаў не зможа прайсці рэгістрацыю з-за незаконна праведзенай працэдуры вылучэння або няправільна афармленых дакументаў.

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*



У Мінску адбылося адкрыццё Бюро Сусветнай Арганізацыі аховы здароўя (САЗ) па сувязі і каардынацыі. Новае міжнароднае прадстаўніцтва будзе выконваць спецыяльную місію па ажыццяўленню праграмы "Еўраздароўе" для інтэнсіфікацыі кааперацыі ў галіне аховы здароўя з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

На адкрыцці прадстаўніцтва прысутнічалі міністр аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Інеса Драбышэўская і прадстаўнік ААН у Беларусі Мэцью Кахане.

НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця Бюро САЗ у Мінску.

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## В. ЛАЗЕРКА — ГЕНЕРАЛЬНЫ КОНСУЛ У НЬЮ-ЙОРКУ

Пастановай Кабінета Міністраў генеральным консулам нашай рэспублікі ў Нью-Йорку назначаны В. Лазерка.

Гэтай жа пастановай ад пасады генеральнага консула ў Нью-Йорку вызвалены Л. Каравайка -- у сувязі з пераходам яго на іншую працу.

## В. КУЗНЯЦОЎ — ПАСОЛ У ПЕКІНЕ

Кіраўніцтва Кітайскай Народнай Рэспублікі дало згоду на назначэнне паслом Рэспублікі Беларусь у КНР цяперашняга першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслава Кузняцова.

Такім чынам, няёмкая сітуацыя, у якую трапіў В. Кузняцоў пасля падпісання Прэзідэнтам указа аб яго назначэнні, блізіцца да свайго вырашэння.

*У ПАРАЎНАННІ*

## ЗАРПЛАТА: У НАС І Ў СУСЕДЗЯЎ

У лютым мінімальная зарплата ў Літве была меншай, чым у Латвіі і Эстоніі, але значна большай у параўнанні з зарплатай у Беларусі -- такія даныя дэпартамента па статыстыцы пры ўрадзе Літвы. Так, у Латвіі яна складала 51,76 долара, у Эстоніі -- 36,96, у Літве -- 25 "зялёных". А вось што тычыцца Беларусі, то тут мінімум зарплаты ў дзесяць разоў ніжэйшы -- усяго 2,67 "зялёненькіх".

Што тычыцца налічанай заработнай платы за мінулы месяц, то ў нашых суседзяў -- у літоўскай дзяржаве -- яна складала амаль 110 долараў, у Латвіі -- 165, а ў Эстоніі -- больш за 172 амерыканскія долары.

Грамадзяне ж Беларусі ў тым жа месяцы ў сярэднім атрымалі па 33,23 долара.

*ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ*

## ЗАРОБЛЕНЫЯ МІЛЬЯРДЫ

Летась у народнай гаспадарцы краіны было выкарыстана 345 распрацовак установ Акадэміі навук Беларусі. Укараненне тэхналагічных працэсаў, новай тэхнікі і матэрыялаў, практычных рэкамендацый вялося па 1 653 дагаворах на стварэнне навукова-тэхналагічнай прадукцыі і 105 дагаворах аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. З іх больш 1 000 дагавораў на стварэнне навукова-тэхнічнай прадукцыі ўжо выканана, і аб'ём іх склаў больш 9 мільярдаў рублёў. Найбольшы аб'ём распрацовак прыпадае на Інстытуты тэхнічнай кібернетыкі (больш 1,4 мільярда рублёў) і цепла- і масаабмену (больш 1,1 мільярда рублёў).

*АЧЫШЧЭННЕ*

## ДАР АМЕРЫКАНЦАЎ

Згодна з палажэннямі праграмы Нана-Лугара, Міністэрства абароны ЗША пераадрасавала для Беларусі ў асобе шэрагу яе міністэрстваў і ведамстваў дарагое аналітычнае абсталяванне для ачысткі тэрыторый і пляцовак, якія раней займалі выведзеныя ў Расію ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння (РВСН).

На базе рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтра "Экамір" з дапамогай амерыканскіх спецыялістаў абсталявана хіміка-аналітычная лабараторыя, адкрыццё якой намечана на 14 красавіка. Як сцвярджаюць амерыканцы, аналагаў гэтай лабараторыі ў краінах СНД пакуль не існуе.

*ЛЯСНЫ ФОНД*

## ЁСЦЬ РОСТ

Агульная плошча лесапакрытых зямель у Беларусі павялічылася ў параўнанні з 1988 годам на 405,8 тысячы гектараў і складае сёння 8 676,1 тысячы гектараў. Удзельная вага спелых лясоў узрасла з 2,6 да 4,8 працэнта. Агульны запас драўніны ў краіне дасягнуў 1 095 100 тысяч кубаметраў.

Паляпшэнне стану ляснога фонду адбылося дзякуючы павышэнню ўзроўню кіравання лясной гаспадаркай, больш дакладнаму выкананню тэхналагічных патрабаванняў па ахове і абароне "зялёнага сябра".

*ШЫКОЎНА*

## НАВАСЕЛЛЕ БАНКА

Самы сучасны банкаўскі офіс з'явіўся ў Гродне. Гэта новы будынак філіяла "Приорбанка".

Знешне ён нагадвае фасад Кармяліцкага касцёла -- гістарычнага помніка XVIII стагоддзя, які знаходзіўся на гэтым месцы, але быў разбураны. Унутры будынак адпавядае самым дакладным стандартам еўрапейскіх банкаўскіх офісаў, пачынаючы з забеспячэння фотаэлементамі дзвярэй, што гасцінна адчыняюцца пры набліжэнні наведвальніка, і заканчваючы надзейным сховішчам, дзе, у выпадку неабходнасці, можна падключыць аўтаномны блок сілкавання.

*ВЕТЭРАНЫ*



Двайны юбілей адзначаць сёлета муж і жонка СЦЕПАНЮКІ (на здымку) з вёскі Пелішча Камянецкага раёна.

Фёдар Феадосьевіч, мясцовы жыхар, пайшоў на вайну ў 1944 годзе. Пад Варшавай быў цяжка кантужаны. Пасля выздараўлення яго накіравалі служыць на санітарны поезд, дзе была санітаркай і Настасся Кузьмінічна -- ураджэнка Архангельскай вобласці.

Вайна для Фёдара і Насці закончылася ва Усходняй Прусіі. А 1 ліпеня 1945 года ў Брэсце яны сталі мужам і жонкай. Так што разам з юбілеем Перамогі яны адзначаць сёлета яшчэ і залатое вяселле.

Пасля вайны муж і жонка пасяліліся ў вёсцы ды так і засталіся тут. Фёдар Феадосьевіч працаваў ветурачом, Настасся Кузьмінічна -- заатэхнікам.

Іх дом у Пелішчы -- недалёка ад танка-помніка, які ўстаноўлены ў гонар вызваліцеляў вёскі. У час прагулак ветэраны любяць прыходзіць сюды. Тут усё нагадвае ім аб іх трывожнай маладосці.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

З 1 да 15 МАЯ, калі будзе адзначацца 50-годдзе Перамогі, інвалідам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны Беларуская чыгунка забяспечыць бясплатны праезд па тэрыторыі дзяржавы да месцаў баявой славы. Гэта датычыцца і ветэранаў з усіх краін, якія прыедуць у Беларусь.

БОЛЬШ чым у два разы скарацілася вытворчасць хлебабулачных вырабаў у Навагрудскім раёне. Прычына -- людзі не маюць за што купіць хлеб. Цяпер на кожнага жыхара раёна ў суткі ў сярэднім выпякаецца па 283 грамы хлеба. Амаль што як у вайну ў блакадным Ленінградзе.

ЗА КОШТ скарачэння вытворчасці ў 1994 годзе ў Беларусі прамысловыя прадпрыемствы выкінулі ў паветра ўсяго 597 тысяч тон шкодных рэчываў. (У 1990 годзе -- 1 мільён 773 тысячы). Найбольш чыстае паветра ў Брэсцкай вобласці, утрая больш выкідаў у атмасферу -- на Віцебшчыне. Экалагічна неспрыяльныя гарады -- Магілёў, Наваполацк, Гродна, Бабруйск, Віцебск, Пінск.

ДЭФІЦЫТ педагагічных кадраў -- праблема не толькі сельскіх школ Беларусі, але ўжо і сталіцы. Толькі ў школах Заводскага раёна Мінска не хапае больш за сто настаўнікаў, у асноўным -- выкладчыкаў замежных моў. Выпускнікі педагагічных інстытутаў, атрымаўшы дыплом, ідуць у камерцыю або даюць прыватныя ўрокі дзецям з заможных сем'яў. За гадзіну працы зарабляюць ад 2 да 10 долараў.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прыняў удзел у Міжнародным тыдні тэатраў "Беласток-95". Спектакль "Ідылія" па Дуніну-Марцінкевічу, паказаны беластоцкаму гледачу, прайшоў пры поўным аншлагу і меў велізарны поспех. У фестывалі прынялі ўдзел таксама тэатры з Літвы, ЗША, Іспаніі, Украіны.

ТОЛЬКІ нядаўна рэнтгенолагі выявілі асколак у сэрцы ветэрана вайны Мікалая Білята з вёскі Крывічы Зэльвенскага раёна. Былы разведчык атрымаў раненне пад Кёнігсбергам. Пасля лячэння ў шпіталі штурмаваў Берлін, потым паўстагоддзя працаваў у калгасе. І ўсё... з тым асколкам ад міны ў сэрцы.

У МІНСКАЙ ЕПАРХІІ ўзнаўляецца старажытны мужчынскі Лядансі Свята-Благавешчанскі манастыр. Ён знаходзіцца ў вёсцы Ляды пад Мінскам. За савецкім часам тут было збожжасховішча, будынак цалкам разбурыўся. Нядаўна ў манастыры адбыўся першы манаскі пастрыг.

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Сёння мы ўсё больш пачынаем разумець, што выйграць вайну з фашызмам удалося нам хутчэй не "дзякуючы", а "насуперак". Паколькі, як вядома, усё тайнае становіцца яўным і мы па крыхах пачынаем усё-такі пазнаваць сваё мінулае, міжволі прыходзіш да такога заключэння. Інакш вельмі цяжка растлумачыць многія факты і падзеі.

Апошнім часам, напрыклад, многія даследчыкі прыводзяць у сваіх працах пісьмы і дзённікі салдат і афіцэраў вермахта, у якіх расказваецца аб цяжкіх баях, аб магутных ударах Чырвонай Арміі, аб невыносных умовах існавання на фронце, цяжкім душэўным стане асабовага складу. Доказы, што і гаварыць, пераканаўчыя. Але адразу ўзнікае пытанне, а чаму толькі дзённікі фашыстаў? А таму, што нашым воінам вельмі строга было забаронена паведамляць у тыл аб сапраўдным становішчы спраў на фронце. Дарэчы, гэтак жа, як і на фронт нельга было пісаць праўду пра жыццё ў тыле. Тым больш весці дзённікі. Контрразведка жорстка і няўмольна карала кожнага, хто асмельваўся парушыць гэта людаедскае правіла. **Ідэолагі таго часу сілай прымусілі лгаць увесь народ.** І лгалі адзін аднаму нават самыя блізкія людзі.

Праўда ніколі не ўпісвалася ў ідэалогію таго часу. Грэх, вядома, квітацца мёртвымі, але і не лічыць нельга. Толькі нядаўна мы сталі даведвацца, якую цану заплацілі за перамогу. **Некалькі дзесяткаў жыццяў давялося аддаць за жыццё кожнага ворага.** І калі ўсё-такі перамаглі пры гэтым, то ўжо зусім не "дзякуючы", а "насуперак" мільёнам няздзейсненых лёсаў захавалі сістэму, якая гэтыя лёсы і знішчыла.

Доўга і назойліва мы ўсіх запэўнівалі, што, вызваліўшы ад фашызму народы краін Усходняй Еўропы, прынеслі ім свабоду, шчасце і незалежнасць. Аказалася, што проста іх заняволілі, загнаўшы ў адзіны лагер, і сілай прымусілі жыць па вобразу і падабенству свайму. Але як толькі рэжым аховы крыху аслабеў, лагер узбунтаваўся і рассыпаўся, каб набыць нарэшце сапраўдную свабоду і незалежнасць.

Пра тое, што прынесла Перамога самім пераможцам, гаварыць увогуле не варта. Харчовыя падарункі ад пераможаных некалі праціўнікаў -- гэта праўда, крыўдная і жорсткая. Можа быць, у недалёкай будучыні мы ўсё-такі дойдзем і да поўнай праўды пра мінулую вайну. І гэта будзе нашай сапраўднай Перамогай, а не толькі святам "са слязамі на вачах".

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Рэдакцыя пачынае публікаваць падборку дакументальных матэрыялаў па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, якія закранаюць шэраг малавядомых пытанняў, пачынаючы з перадваеннага часу і да 1942 года ўключна.**

**Чытачу даецца магчымасць самому азнаёміцца і ацаніць шэраг неапублікаваных ці практычна невядомых шырокаму колу грамадскасці дакументаў з былога архіва ЦК КПСС (цяпер -- Расійскі цэнтр захоўвання і вывучэння дакументаў найноўшай гісторыі), у прыватнасці, з фондаў Дзяржаўнага Камітэта Абароны, якіх няма ў архівах Рэспублікі Беларусь.**

**Гэтыя дакументы дазваляюць па-новаму з розных пунктаў гледжання паглядзець на развіццё падзей у пачатковы перыяд вайны і параўнаць з тым, што мы ведалі раней.**

**Дык ці трэба ўспамінаць аб суровай праўдзе вайны! Няхай на гэтае пытанне адкажа сабе кожны чытач сам. І той, хто лічыць тэму вайны вычарпанай, і той, каго яна трывожыць і сёння.**

## НАПЯРЭДАДНІ ВАЙНЫ

**(дакументы 1939—1941 гадоў)**

### САКРЭТНЫ ДАДАТКОВЫ ПРАТАКОЛ ДА ДАГАВОРА ПАМІЖ ГЕРМАНІЯЙ І САВЕЦКІМ САЮЗАМ АД 23 жніўня 1939 года

З выпадку падпісання Пакта аб Ненападзенні паміж Германіяй і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік прадстаўнікі абодвух Бакоў, якія падпісаліся ніжэй, абмеркавалі ў строга канфідэнцыяльных гутарках пытанне аб размежаванні іх сфер уплыву ва Усходняй Еўропе. Гэтыя гутаркі прывялі да пагаднення ў наступным:

1. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, што належаць прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літве), паўночная мяжа Літвы будзе з'яўляцца рысай, што падзяляе сферы ўплыву Германіі і СССР. У сувязі з гэтым зацікаўленасць Літвы ў раёне Вільна прызнана абодвума Бакамі.

2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, што належаць Польскай дзяржаве, сферы ўплыву Германіі і СССР будуць размежаваны прыблізна па лініі рэк Нарэў, Вісла і Сан.

Пытанне аб тым, ці пажадана ў інтарэсах абодвух Бакоў захаванне незалежнасці Польскай дзяржавы, і аб межах такой дзяржавы будзе канчаткова вырашана толькі ходам будучых палітычных падзей.

У любым выпадку абодва Урады вырашаць гэтае пытанне шляхам сяброўскай згоды.

3. Што тычыцца Паўднёва-Усходняй Еўропы Савецкі бок указаў на сваю зацікаўленасць у Бесарабіі. Германскі бок ясна заявіў аб поўнай палітычнай незацікаўленасці ў гэтых тэрыторыях.

4. Даны пратакол разглядаецца абодвума Бакамі як строга сакрэтны.

*Масква, 23 жніўня 1939 г.*

| | |
|---|---|
| **За Урад Германіі І.Рыбентроп.** | **Паўнамоцны прадстаўнік Урада СССР В. Молатаў.** |

### З АКТА АБ ПРЫЁМЕ НАРКАМАТА АБАРОНЫ САЮЗА ССР тав. ЦІМАШЭНКАМ С.К. АД тав. ВАРАШЫЛАВА К.Я.

*Зусім сакрэтна*

У мэтах выканання пастановы СНК СССР ад 8 мая 1940 года за N 690 пры прыёме Наркамата абароны тав. Цімашэнкам ад тав. Варашылава ў прысутнасці тт. Жданава, Малянкова і Вазнясенскага заслуханы даклады Начальнікаў Цэнтральных упраўленняў і ўстаноўлена наступнае:

**УКАМПЛЕКТАВАННЕ І ЎПАРАДКАВАННЕ ВОЙСК**

1. Дакладна ўстаноўленай фактычнай колькасці Чырвонай Арміі ў момант прыёму Наркамат не мае. Улік асабовага складу, па віне Галоўнага ўпраўлення Чырвонай Арміі, знаходзіцца ў выключна запушчаным стане...

**СТАН КАДРАЎ**

Да моманту прыёму Наркамата абароны армія мела значны некамплект начскладу, які асабліва ў пяхоце дасягаў да 21 працэнта да штатнай колькасці на 1 мая 1940 года.

Якасць падрыхтоўкі каманднага складу нізкая, асабліва ў звяне "ўзвод-рота", у якім да 68 працэнтаў маюць толькі кароткатэрміновую падрыхтоўку курса малодшага лейтэнанта.

**БАЯВАЯ ПАДРЫХТОЎКА ВОЙСК**

...У баявой падрыхтоўцы войск дапускаецца шмат умоўнасцей, войскі не трэніруюцца ў становішчы, прыбліжаным да баявой рэчаіснасці, у адносінах да патрабаванняў тэатраў ваенных дзеянняў...

**СТАН РАЗВЕДВАЛЬНАЙ РАБОТЫ**

Арганізацыя разведкі з'яўляецца адным з найбольш слабых участкаў у рабоце Наркамата абароны. Арганізаванай разведкі і сістэматычнага паступлення даных аб замежных арміях не маецца...

**ПРОЦІПАВЕТРАНАЯ АБАРОНА**

Проціпаветраная абарона войск і ахоўваемых пунктаў знаходзіцца ў стане поўнай запушчанасці. Існуючы стан ППА не адпавядае сучасным патрабаванням.

**Здаў -- К. Варашылаў.**
**Прыняў -- С. Цімашэнка.**

### З ДАКЛАДНОЙ ЗАПІСКІ БЕРЫІ СТАЛІНУ

"21 чэрвеня 1941 г. ...Я зноў настойваю на адкліканні і пакаранні нашага пасла ў Берліне Дзеканозава, які па-ранейшаму бамбардзіруе мяне "дэзамі" аб нападзе на СССР, што нібыта рыхтуе Гітлер. Ён паведаміў, што гэты "напад" пачнецца заўтра...

...Тое ж радзіраваў і генерал-маёр В.І. Тупікоў, ваенны аташэ ў Берліне. Гэты тупы генерал сцвярджае, што тры групы армій вермахта будуць наступаць на Маскву, Ленінград і Кіеў, спасылаючыся на сваю берлінскую агентуру. Ён нахабна патрабуе, каб мы забяспечылі гэтых ілгуноў рацыяй...

Начальнік Разведупраўлення, дзе яшчэ нядаўна дзейнічала банда Берзіна, генерал-лейтэнант Ф.І. Голікаў скардзіцца на Дзеканозава і на свайго падпалкоўніка Нававбранца, які таксама лжэ, быццам Гітлер сканцэнтраваў 170 дывізій супраць нас на нашай заходняй граніцы...

Але я і мае людзі, Іосіф Вісарыёнавіч, цвёрда помнім Ваша мудрае прадвызначэнне: у 1941 годзе Гітлер на нас не нападзе!.."

### ДЫРЭКТЫВА НАРКОМА АБАРОНЫ СССР

*Ваенным саветам ЛВА, ПрыбАВА, ЗахАВА, КАВА, АдАВ*
*Копія: Народнаму камісару ВМФ*

1. На працягу 22--23.6.41 г. магчымы раптоўны напад немцаў на франтах ЛВА, ПрыбАВА, ЗахАВА, КАВА, АдВА. Напад можа пачацца з правакацыйных дзеянняў.

2. Задача нашых войск -- не паддавацца ні на якія правакацыйныя дзеянні, што могуць выклікаць буйныя ўскладненні. Адначасова войскам Ленінградскай, Прыбалтыйскай, Заходняй, Кіеўскай і Адэскай ваенных акруг быць у поўнай баявой гатоўнасці, сустрэць магчымы рапатоўны ўдар немцаў ці іх саюзнікаў.

3. Загадваю:

а) на працягу ночы на 22.6.41 г. скрытна заняць агнявыя кропкі ўмацаваных раёнаў на дзяржаўнай граніцы;

б) перад досвіткам 22.6.41 г. разгрупаваць па палявых аэрадромах усю авіяцыю, у тым ліку і вайсковую, старанна яе замаскіраваць;

в) усе часці прывесці ў баявую гатоўнасць. Войскі трымаць разгрупавана і замаскіравана;

г) проціпаветраную абарону прывесці ў баявую гатоўнасць без дадатковага пад'ёму прыпісного складу. Падрыхтаваць усе мерапрыемствы па зацямненню гарадоў і аб'ектаў;

д) ніякіх іншых мерапрыемстваў без асобага распараджэння не праводзіць.

**21.6.41 г. Цімашэнка. Жукаў.**

**Заўвага:** перадача дырэктывы ў акругі была закончана ў 00.30 мінут 22.6.41 г.

### АБ СТАНОВІШЧЫ НА ФРОНЦЕ БРЭСТ-КОБРЫНСКАГА НАПРАМКУ

*Запіска сакратара Брэсцкага абкома КП(б) Беларусі М.Н. Тупіцына ў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б) Беларусі*
*25 чэрвеня 1941 г.*

*Зусім сакрэтна*
*Асобая папка*

Брэсцкі абком КП(б)Б лічыць неабходным інфармаваць Вас аб становішчы, якое склалася на фронце Брэст-Кобрынскага напрамку.

Абком КП(б)Б лічыць, што кіраўніцтва 4 Арміі аказалася непадрыхтаваным арганізаваць і кіраваць ваеннымі дзеяннямі. Гэта пацвярджаецца цэлым шэрагам фактаў, у прыватнасці:

Уварванне нямецкіх войск на нашу тэрыторыю адбылося так лёгка таму, што ніводная часць і злучэнне не былі гатовы прыняць бою, таму вымушаны былі ці ў беспарадку адступаць, ці загінуць. У такім становішчы апынуліся 6 і 42 стр. дывізіі ў Брэсце і 49 с.д. -- у Высокаўскім раёне.

У Брэсцкай крэпасці на самой граніцы трымалі дзве стр. дывізіі, якім нават у мірных умовах патрабавалася многа часу для таго, каб выйсці з гэтай крэпасці і разварнуцца для ваенных аперацый. Акрамя таго, нягледзячы на сігнал ваеннай небяспекі, камандны склад жыў у горадзе на кватэрах. Натуральна, пры першых выстралах сярод чырвонаармейцаў узнікла паніка, а магутны шквал агню нямецкай артылерыі хутка знішчыў абедзве дывізіі. Па расказах чырвонаармейцаў, якім удалося выратавацца, заслугоўвае ўвагі і той факт, што не ўсе часці і злучэнні мелі патроны, не было патронаў у байцоў...

У выніку такога стану з першых жа дзён ваенных дзеянняў у часцях 4 Арміі пачалася паніка. Можна было назіраць такую карціну, калі тысячы камандзіраў (пачынаючы ад маёраў і палкоўнікаў і канчаючы малодшымі камандзірамі) і байцоў уцякалі...

Абком і Гарком КП(б)Б разам з абл. упраўленнямі НКУС і НКДБ спрабавалі спачатку навесці парадак у горадзе, але эфектыўна нічога зрабіць не змаглі, таму што чырвонаармейскія часці ў паніцы адступалі. Таму, не ведаючы становішча, не маючы сувязі з ваенным камандаваннем, не разлічваючы на баяздольнасць воінскіх часцей, мы вымушаны былі пакінуць г. Брэст.

Абком КП(б)Б лічыць, што неабходна прыняць самыя тэрміновыя і рашучыя меры па навядзенню парадку ў 4 Арміі і ўмацаваць кіраўніцтва 4 Арміі.

**Сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б Тупіцын.**

**Заўвага:** 4-я армія была сфарміравана ў жніўні 1939 г. у Беларускай Асобай ваеннай акрузе на базе Бабруйскай армейскай групы. З пачатку вайны армія ў складзе Заходняга фронту вяла абарончыя баі на Брэсцкім напрамку. 9 ліпеня 1941 г. камандуючы арміі А.А. Карабкоў быў арыштаваны і 22 ліпеня прыгавораны да расстрэлу. У 1957 г. А.А. Карабкоў пасмяротна рэабілітаваны. — І.К.

### БАЯВОЕ ДАНЯСЕННЕ ШТАБА 4-й АРМІІ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ N 06

**23 чэрвеня 1941 г. 9.00.**

З 6.00 23.6.41 г. часці арміі перайшлі ў контратаку: 14 мк у напрамку Відомля і 28 ск -- на Брэст.

У выніку прадпрынятага праціўнікам сустрэчнага бою сіламі не менш 2 танкавых дывізій у напрамку Пружаны і сіламі да трох пд з танкамі на Кобрын контрнаступленне арміі поспеху не мела...

Поспеху праціўніка асабліва садзейнічала бесперапынная падтрымка авіяцыі пры поўнай адсутнасці дзеяння авіяцыі з нашага боку...

Слабакіруемыя часці, напалоханыя бесперапыннымі атакамі з нізкіх вышынь і брыючага палёту ВПС праціўніка, адыходзяць без ніякіх прычын...

Прашу! Настойліва прашу:

а) актывізаваць нашу авіяцыю на барацьбу з авіяцыяй праціўніка, затрымаць авіяцыяй рух танкаў на Пружаны і Картуз-Бяроза напрамкі;

б) артсклад у Бона Гура праціўнікам узарваны, боеприпасаў у часцях засталося мала, а транспарту для падвозу з Пінска недастаткова.

**Камандуючы войскамі 4-й арміі генерал-маёр Карабкоў.**
**Член ваеннага савета дывізіённы камісар Шлыкаў.**
**Начальнік штаба палкоўнік Сандалаў.**

# ТАКАЯ СУМНАЯ ВЕСТКА

## *ПАМЯЦІ Янкі МІХАЛЮКА*

Мне не давялося сустрэцца з гэтым чалавекам, хоць упэўненасць у тым, што пабачымся, была стопрацэнтнай. Ён быў захоплены ідэяй яднання беларусаў свету, правядзення Першага з'езда, часта тэлефанаваў мне, стараючыся ўнікнуць, чаму пэўныя палітычныя сілы на Беларусі выступаюць супраць яго правядзення, і рабіў усё належнае, каб гэтае яднанне адбылося і беларусы Вялікабрытаніі трапілі на Усебеларускі форум.

А потым раптоўна сувязь перапынілася, і толькі праз пару тыдняў мне патэлефанаваў Янка Ясьвіловіч -- яго намеснік па Згуртаванню беларусаў Вялікабрытаніі і паведаміў скрушную вестку: шаноўнаму Янку Міхалюку зрабілі складаную аперацыю, яго жыццё вісела на валаску, і, каб ўратаваць, давялося ампутаваць (спачатку адну, потым другую) абедзве нагі...

З'езд адшумеў, і, крыху счакаўшы, нашае кантактаванне аднавілася. Я, як мог, стараўся падбадзёрыць Янку, каб ён у надзвычай драматычнай для яго сітуацыі не паў духам і працягваў жыць сярод людзей і для людзей, чэрпаючы ў гэтым мацнату, знаходзячы трывалае апірышча для сябе.

Не ведаю, мо і мае лісты і размовы дадалі яму ўпэўненасці, але ж галоўнае тут не ў нейкіх знешніх уплывах, а ў прыроджанай моцы духу, трывалым аптымізме, вывераным і сфарміраваным усім жыццём крэда, якое заключалася не толькі ў дабрыні да блізкіх і родных, да сваёй сям'і, але яшчэ і ў імкненні і перакананні жыць для беларусаў і Беларусі, якую ён так і не наведаў пасля сваёй доўгай і змушанай ростані, але дзеля якой так шмат стараўся і здзейсніў. Не ведаю, ці аддзячыць калі такім людзям Беларусь, але пэўна, што пры такой, як ёсць, сітуацыі няскора. Маю на ўвазе Беларусь афіцыйную, ці, дакладней, сённяшнія ўладныя структуры, што імкнуцца паставіць яе на калені, пазбавіць годнасці і самастойнасці, зноў навязаць чужую мову і культуру. Ды яна, Беларусь, і не такое на сваім тысячагадовым ухабістым шляху бачыла! І, напэўна, вытрывае, перажыве і сённяшнія выпрабаванні. Бо ёсць у яе сотні тысяч такіх, як Янка Міхалюк, шчырых і адданых сыноў. А што да пашаны, дык ці ж не паказальна, што земляні Вялікабрытаніі на сваім чарговым з'ездзе зноў абралі Янку Міхалюка сваім старшынёй. І ён, нягледзячы на калецтва, вёў актыўную грамадскую дзейнасць, скіраваную на дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля і на іншыя карысныя справы. Непаўторны след у душах высокіх пасланцоў з Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнай Рады сп. Мечыславам Грыбам і з удзелам старшыні Камісіі па культуры, адукацыі і захаванню гістарычнай спадчыны паэтам Нілам Гілевічам пакінула сустрэча з беларусамі Англіі і асабліва з Янкам Міхалюком...

Менавіта пра гэта пісаў я ў лісце да свайго далёкага сябра, перададзенага праз Уладзіміра Арлова, які па пісьменніцкіх інтарэсах паехаў у Лондан.

І вось зноў, цяпер ужо назаўсёды несуцешная, такая роспачна-сумная вестка: ад нас адышоў мужны чалавек са светлай галубінай душою -- Янка Міхалюк. Не стала на гэтай грэшнай зямлі яшчэ аднаго праведніка, яшчэ аднаго сапраўднага беларуса -- духоўна непахіснага, фізічна трывалага, справядлівага і да канца нязломнага, як лепшая частка нашага народа. Хай яму будзе пухам далёкая англійская зямля і вечная памяць сярод тых, хто ідзе па той жа, што і ён, дарозе.

**Яўген ЛЕЦКА.**



# ДВА ВЯСНОВЫЯ ТЫДНІ Ў ЛЮТЫМ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Усе практыканты (а іх было 12 -- з Албаніі, Румыніі, Латвіі, Літвы, Арменіі, Казахстана, двое са Славакіі, Польшчы, Украіны, Македоніі і Беларусі) мелі шанц азнаёміцца з усімі 12 варыянтамі з заўвагамі, а таксама, як узор, варыянтамі кіраўніка праграмы і вядучага рэдактара, якія працавалі разам з намі. У гэтым і заключаўся ўвесь сакрэт хуткаснай падрыхтоўкі. Але гэта была даволі цяжкая праца.

Найбольш цікавыя ўражанні і сустрэчы чакалі нас у парламенце, Міністэрстве замежных спраў, прадстаўніцтве Савета Еўропы ў Лондане, а таксама месцах, якія непасрэдна звязаны з працай сродкаў масавай інфармацыі -- службе ВВС, у рэдакцыях (калі можна так сказаць) дзвюх буйных газет The Daily Mail і London Evening Standard, пабачыць, як яны друкуюцца ў суперсучасным доме друку, дзе ўсё спачатку да канца робяць робаты, ну і вядома, у новым будынку агенцтва "Рэйтар".

Назіраючы за працай журналістаў, чытаючы газеты, пераконваліся, што прэса ў Вялікабрытаніі перажывае росквіт. Прафесія журналіста -- адна з самых высокааплатных. Уражвае наклад асобных газет, які дасягае 4 мільёнаў. Праглядаючы кожную раніцу яркія рознакаляровыя газеты, у якіх ад 20 да 50 і нават больш старонак, нельга было не здзівіцца, хто і калі іх паспявае прачытаць ці толькі прагарнуць.

Тут я хацела б адзначыць, што міжнародная палітыка не вельмі турбуе англічан -- такія навіны можна знайсці ўсяго на 5-й ці 6-й старонках. Затое ўсё, што тычыцца ўнутраных спраў, ідзе першачаргова. Вось такі прыклад уплыву прэсы на грамадства. На працягу тыдня мы разам з усёй Англіяй сачылі за лёсам немаўляткі Лідзіі, якую выкралі са шпіталя праз чатыры дні пасля яе нараджэння. Фотаздымкі яе і маці (а потым і злачынцы) не сыходзілі з першых старонак усіх газет яшчэ некаторы час, нават калі дзіця знайшлося. Маці была вельмі шчаслівая, што яе "крывінка" зноў побач, і ніякіх прэтэнзіяў да медперсаналу не мела. І вось тут узнялася грамадскасць, якая лічыла, што галоўная прычына здарэння -- недахоп сачыльных камер на ўваходах у шпіталь. Людзі былі вельмі занепакоены, што такое можа здарыцца і з любым іншым. Каб супакоіць грамадскасць і не згубіць рэпутацыю, кіраўніцтва шпіталя мусіла перагледзець усё ахоўнае абсталяванне і паставіць дадатковыя камеры на ўсе ўваходы, што і было адразу прадэманстравана па тэлебачанню. Вось так грамадства разам са сродкамі масавай інфармацыі клапоцяцца аб сабе, бароняць свае інтарэсы.

Відавочна, што праца журналіста вельмі напружаная, але для яе ў Англіі створаны ўсе ўмовы. Пералік асноўных сустрэч і падзей яны маюць далёка наперад. Неабходную інфармацыю па замежных падзеях можна атрымаць таксама на штодзённых прэс-канферэнцыях у МЗС а 12-й і 15-й гадзінах або на штотыднёвай у Савеце Еўропы. Там жа можна ўзяць ужо гатовыя раздрукоўкі па любому разглядаемаму пытанню.

Захапляюць прыгажосцю сваёй архітэктуры як старыя, традыцыйныя, так і зусім новыя "шкляныя" будынкі, дзе месціцца рэдакцыі газет і агенцтва. Праз бездакорна чыстае шкло відаць і зімні сад, і вадаспады. Будынкі нагадваюць адзін арганізм, дзе за працай кожнага органа можна сачыць пасобку. Уражвае і аздоба інтэр'ераў. Незалежна ад узросту усе яны начынены самай суперсучаснай тэхнікай, аб якой можна нам пакуль толькі марыць. За вонкавай прастатой тут усё зручна для працы, не трэба нікуды бегчы, каб выпіць кубачак кавы ці гарбаты. На кожным паверсе ёсць аўтамат, які па жаданню "напоіць" і кавай, і гарбатай, напіткам або булёнам і г.д. Як зачараваныя, глядзелі мы на манітор, з трох дзесяткаў квадратаў якога ішоў адначасова прамы рэпартаж з розных куткоў свету. Тое, чаму надаецца першасная ўвага, адразу выводзіцца на асобны дысплей і перадаецца ў жывы эфір. Адсюль жа можа быць зроблены любы стоп-кадр, і далей фотаздымак умомант накіроўваецца ў пэўную газету. Нечым гэта нам нагадвала падарожжа ў будучыню. Няма тут і рэдагавання ў нашым разуменні гэтага слова. Усё адразу набіраецца на камп'ютэрах, якія падключаны да агульнай сеткі, і ідзе проста ў макет. Рэдактар можа падключыцца да любога журналіста, але прагледзець усе матэрыялы ў яго проста не хопіць часу.

Сустракаючыся з рознымі журналістамі, вядома, я не магла ўстрымацца, каб не запытаць, ці можа ўплываць кіраўнік урада на сродкі масавай інфармацыі і ці існуе ў іх якаянебудзь цэнзура. У адказ на мяне пагледзелі, так бы мовіць, "з разуменнем", ну а вусна патлумачылі, што ўрад мае свае больш важныя функцыі і абавязкі. Што ж тычыцца цэнзуры, то калі яна і існуе, дык толькі на ўзроўні падсвядомасці кожнага журналіста, бо наогул падача інфармацыі вызначаецца прыярытэтамі ў дзяржаўнай палітыцы, эканоміцы і г.д.

Нас доўга прывучалі захапляцца чужымі дасягненнямі. Вядома, можна пазайздросціць, калі бачыш, што людзі стварылі сабе ўмовы, у якіх працуеш і хочацца працаваць яшчэ. Не адзін раз запытала ў сябе я, чым мы горшыя і што наогул трэба зрабіць, каб хоць неяк наблізіцца да недасяжнага Захаду. (Не ведаю, ці пагодзяцца са мной, але, на маю ўласную думку, у характары англічаніна і беларуса шмат агульнага: сардэчнасць, гасціннасць, працавітасць). Магчыма, сапраўды ўся справа ў традыцыях, якімі кіруюцца ў Англіі і якія амаль забытыя ў Беларусі. Тут бы мне хацелася заўважыць, што калі ад'язджаеш за мяжу нават на кароткі тэрмін, пачуцці прыналежнасці да сваёй Радзімы робіцца больш абвостранымі і ідэалізаванымі. Час ад часу лавіла сябе на думцы, што там, у Англіі, апынулася я ў стане малога пакрыўджанага дзіцяці, што заблудзіла і шукае сваю маці, якая для яго самая лепшая, самая прыгожая, і яно ніяк не зразумее, чаму яе ніхто не ведае. Неаднойчы за тыя два тыдні мне давялося пераканацца, што пра Беларусь ведаюць мала. Вядома крыўдна, што, адказваючы на пытанне шматлікіх англічан, адкуль я, калі называла "Беларусь" у адказ, чула здзіўленае "Belawhere?", што ў перакладзе гучыць, як "Бела -- дзе?". Амаль нічога пра Беларусь не ведалі і калегі-журналісты з краін Усходняй Еўропы.

І ўсё ж у Лондане ёсць месцы, якія цесна звязаны з нашай краінай, наведаўшы якія, адчуваеш, што Беларусь жыла, жыве і будзе жыць. І ёсць у Лондане людзі, чыё жыццё наскрозь пранята беларускай шматгадовай справай. З ранку да вечара размаўляючы па-англельску, было вельмі прыемна нарэшце апынуцца ў кампаніі суайчыннікаў, размаўляць на мілагучнай беларускай мове. Але аб гэтым чытайце ў наступным нумары.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** рэдакцыя газет "The Daily Mail" і "London Evening Standard"; дырэктар фундацыі "Рэйтар" Стэфан СОМЕРВІЛЬ уручае пасведчанне аб заканчэнні курсаў.

*ДУМКІ ПРА БЕЛАРУСЬ. ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

# "СОНЯ" З ДУНІЛАВІЦКАГА ГЕТА, АДГУКНІСЯ!

У 1943 годзе мне было 10 гадоў. Я шмат чаго памятаю з ваеннага часу, але адна сустрэча мне найбольш глыбока запала ў душу, і я часта аб ёй успамінаю.

Зімою таго ж года ў вёсцы Дунілавічы (зараз Пастаўскага раёна) немцы расстралялі яўрэяў, што знаходзіліся ў мясцовым, а можа і суседніх гета, больш за 900 чалавек. Вельмі нямногія выратаваліся. Сярод іх адна дзяўчына, якой нейкім чынам удалося вырвацца з лапаў смерці, а яе родныя былі забіты. Яна ўцякала ад страшнага месца як мага далей, вядома, у лясную старану. А холад і голад гнаў яе да людзей. Зайшла яна ў вёску Красняны да маёй цёткі, а там была і мая бабуля, бацькава маці, якая знаходзілася там часова, а пастаянна жыла з маімі бацькамі на хутары Тэрэз-Двор недалёка ад вёскі Старыя Габы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Бабуля вярнулася дадому і расказала пра яўрэйскую дзяўчыну, а дні праз два гэтая дзяўчына прыйшла ў нашу хату. Жылі мы ў глухім кутку, пры балоце. Я не ведаю, яна завітала да нас выпадкова ці не. Мабыць, бабуля ёй расказала, дзе яна жыве і што дзяўчына можа надзейна ў нас схавацца. Дзяўчына была зусім маладая -- 17--19 гадоў. Яна назвала сябе Соняй. Пражыла ў нас некалькі дзён. Мы з ёю вельмі пасябравалі. Хоць да нас мала хто чужы заходзіў, але мы з Соняй цэлымі днямі сядзелі на печы, спалі таксама. Нам было ўтульна і цёпла. Дзяўчына страціла ўсё, акрамя ўласнага жыцця, прага да якога засланіла яе вялікае гора, яна нават не плакала. Прасіла, каб яе адвялі да партызан, што потым мае бацькі і зрабілі.

Мне вельмі хацелася б ведаць, што сталася з гэтай дзяўчынай, а яшчэ больш хочацца, каб яна засталася жывой. Калі можна, апублікуйце маё пісьмо. Два гады назад падобнае пісьмо было надрукавана ў "Звяздзе", але ніхто не адгукнуўся. А можа, Соня трапіла за мяжу? Я ведаю, што такіх выпадкаў было шмат, бо беларусы часта дапамагалі яўрэям. Але каб Соня магла сябе пазнаць, прывяду некаторыя факты.

Яна была абута ў буркі ў чырвоную клетку. Дзяўчына навучыла маю маці і бабулю шыць такія буркі. Да таго ж свае буркі яна пакінула ў нас, бо ёй далі нешта цяплейшае абуць і апрануць.

Яшчэ яна навучыла мяне выразаць з паперы хлопчыкаў і дзяўчынак, якія трымаюцца за рукі, нібы танцуюць у карагодзе. Я такія цацкі выразала дзецям, а цяпер унукам. Калі гэта раблю, заўсёды думаю пра Соню. Маю надзею, што яна прачытае мой ліст, вельмі хачу, каб мне напісала.

Мой адрас: **211840, г. Паставы Віцебскай вобласці, вуліца Чырвонаармейская, 152. Тэл. 2-20-91.**

**ЗАХАРЭВІЧ Ніне Маркаўне.**

# ПРАЦА ПА АДРАДЖЭННЮ НЕ ЗГІНЕ

Паважаныя спадары!

Звяртаемся да вас з вялікай просьбай -- змясціць гэты ліст-падзяку на старонках вашай газеты.

Беларусы Віленшчыны пачалі адраджаць свае суполкі, таварыствы, а таксама і школы, якія існавалі яшчэ ў міжваенны час.

Адраджэнне ідзе ў нас не так хутка, як хацелася б, і не ўсе беларусы Літвы ўключыліся ў гэты працэс, але галоўнае, што адраджэнне пачалося, і ў гэтай добрай справе нам вельмі прыемная дапамога і словам, і справай нашых замежных суайчыннікаў. Тым болей, што дапамога гэта ідзе ад людзей, якія сёння ўжо ў сталым узросце, якіх лёс выпрабаваў на мужнасць, вернасць і якія сёння маюць шмат хвароб, але для адраджэння беларускасці яны не шкадуюць сваіх апошніх сіл.

Так, вялікую дапамогу беларускай школе, якая адраджаецца ў Вільні, аказвае спадар Юры Весялкоўскі, які ў Лондане рэдагуе часопіс "Голас часу". Ён неаднаразова высылае нашай школе літаратуру, якую выдаюць беларускія пісьменнікі замежжа, а таксама выданні даваенных часоў, часопісы і газеты. У студзені царкоўны камітэт у Англіі даслаў нам пачкі з вопраткай, бялізнай, абуткам для вучняў і ветэранаў-беларусаў Віленшчыны. Мы вельмі ім удзячныя.

Капядны падарунак мы атрымалі і ад Міколы Ганько, і царкоўнага камітэта з Таронта (Канада). Атрыманыя рэчы былі раздзелены не толькі паміж вучнямі, шматдзетнымі сем'ямі і старымі віленчукамі, але атрымалі частку рэчаў і старыя Полаччыны.

Дзякуем мы і чуламу, сапраўднаму беларусу Алехніку і Лідзіі Хіцяк з далёкай Аўстраліі, якія першымі пачалі аказваць нам дапамогу.

У хуткім часе чакаем дапамогу і ад Міхала Іскрыцкага з Манчэстэра. Мы ім усім шчыра дзякуем і жадаем добрага здароўя і настрою, доўгіх год жыцця! Хай яны ведаюць, што іх сціплую дапамогу мы будзем доўга памятаць, бо ў такі цяжкі час усякая ўвага да нас суайчыннікаў значыць вельмі многа, гэта надзея на тое, што мы адродзімся і як нацыя, і як дзяржава, бо нам вераць людзі, якія ўсё жыццё мараць бачыць беларусаў і Беларусь вялікай нацыяй і вялікай дзяржавай.

Карыстаючыся момантам, мы віншуем іх, а таксама ўсіх беларусаў замежжа з Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь і запэўніваем, што іх праца па адраджэнню беларушчыны не згіне.

І яшчэ: у нашай школе аднаўляецца музей беларускай школы і беларускай гімназіі Вільні. І мы чакаем ад былых вучняў і гімназістаў артыкулы, лісты, экспанаты для гэтага музея.

Наш адрас: **Вільня, Sietino, 21. Lietuva, сярэдняя школа N 68.**

Жыве Беларусь!

**Бацькоўскі камітэт (подпісы).**
**Настаўнік школы (подпіс).**
**Таварыства Беларускай культуры (подпісы).**

# НЕ ІДЗІЦЕ НАЗАД!

Паважаны рэдактар!

У "Голасе Радзімы" N 7 за 16 лютага 1995 года я з жалем і недаверам чытаў інфармацыю "Намер Прэзідэнта" аб неабходнасці рэферэндуму па пытаннях дзяржаўнай мовы, сімволікі і саюза з Расіяй. Прэзідэнт на сустрэчы 2 лютага з ветэранскімі арганізацыямі сказаў, што закідаюць яго пытаннямі: "Хіба гэтую краіну мы абаранялі пад Сталінградам, хіба гэта наш флаг і гімн? Чаму нас змушаюць гаварыць на мове, на якой мы гаварыць не хочам?"

Паўстае тут сумнае пытанне: "Хто яны -- такія людзі і ў чыёй краіне яны жывуць? Калі яны лічаць сябе беларусамі, дык чаму так сябе не любяць і паніжаюць сябе ў вачах іншых народаў! Аднак, калі яны сябе лічаць рускімі, то яны павінны зразумець, што жывуць у межах суверэннай краіны і законам гэтай краіны мусяць падпарадкавацца. А калі яны гэтага не хочуць зразумець, то ім дарога да Масквы адкрытая. Масква іх з адкрытымі рукамі не будзе вітаць, бо такія людзі нікому не патрэбныя.

Пад Сталінградам і ў Афганістане яны змагаліся і пралівалі кроў за інтарэсы камуністычнай імперыі.

Сёння ім ёсць нагода пачаць абараняць інтарэсы Беларусі. Перастаньце наракаць і плакаць па няслаўным мінулым, а пачніце адбудоўваць эканоміку і культуру, забітую гадамі Савецкай улады.

Нашая сімволіка павінна быць дарагою кожнаму беларусу на Радзіме ці сотням, раскіданым не з сваёй волі па цэлым свеце. "Пагоня" -- гэта не "конь з шабляю", а сімвал нашае слаўнае прошласці. Кожнаму беларусу "Пагоня" павінна быць дарагою, як рускаму грамадзяніну двухгаловы арол.

Мова -- гэта аснова кожнай нацыі. Мы, беларусы, маем сваю мову і гэтым адрозніваемся ад нашых суседзяў. Гады маскоўскай акупацыі нашай краіны давялі да амаль поўнага выкаранення нашае мовы, а гэтым самым -- і нацыянальнага пачуцця і гонару. З волі Бога, без пралівання крыві, як гэта ідзе ў іншых краінах, Беларусь сталася незалежнай і суверэннай краінай. Абавязак кожнага грамадзяніна Беларусі абараняць гэтую незалежнасць і не дапусціць, каб няслаўная гісторыя паўтарылася.

Прэзідэнт -- гэта галава незалежнай дзяржавы. Ён даў прысягу абараняць інтарэсы Беларусі і яе народа. Ён ёсць гарантам Канстытуцыі, дзе сказана, што беларуская мова ёсць дзяржаўнай мовай. Тое ж самае і пра сімволіку -- "Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг. Прэзідэнт павінен адкрыта сказаць гэтым ворагам беларускай незалежнасці, што ён ёсць Прэзідэнтам суверэннай і незалежнай Беларусі і ён за гэтую незалежнасць будзе змагацца. Урад павінен пачаць даваць прыклад патрыятызму грамадзянам Беларусі, ужываючы родную мову ў дзяржаўных установах і ў школах. Нашыя суседзі пачнуць нас паважаць, калі мы пачнем шанаваць сябе. Мы не рускі народ, а беларускі і гэтым павінны ганарыцца. Не ідзіце назад, а ідзіце наперад, адбудоўваючы эканоміку, культуру і любоў да свайго краю і народа.

**З пашанай С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.

# ПРЫГОЖЫ ЧАЛАВЕК

Ніколі не забуду маленькага хлопчыка Паўліка, які на імпрэзах, што ладзілі беларусы Літвы, чытаў вершы Н.Гілевіча, М.Танка, спяваў беларускія песні, якія падрыхтаваў з дапамогай мамы, шчырай беларускі Галіны Сівалавай. Гэта было на пачатку 90-х гадоў. Так я пазнаёмілася са спадарыняй Галінай, якая працавала ў віленскай школе настаўніцай. Выпускніца Гродзенскага універсітэта, яна часта гаварыла, што хацела ўладкавацца ў школу ў Ашмянскім раёне (які граніччыць з Літвой), каб выкладаць на беларускай мове. Але час ішоў хутка, падзеі змянялі адна другую. І ў Вільні з'явілася магчымасць адкрыць беларускі клас. Вось тут спадарыня Галіна хадзіла ў дзіцячыя садкі, шукала дзяцей-беларусаў, размаўляла з бацькамі, а падчас і агітавала аддаць дзіця ў беларускі клас. Так, намаганнямі спадарыні Галіны адкрыўся ў 1991 годзе першы беларускі клас, дзе спадарыня Сівалава выкладала, а ў 1992 годзе пры расійскай школе былі адкрыты беларускія класы з 1-га па 12-ты. У 1994 годзе, дзякуючы намаганням беларусаў Вільні, для беларускай школы аддалі ўлады Літвы памяшканне дзіцячага садка. Так адкрылася беларуская школа ў Вільні, дырэктарам якой стала спадарыня Галіна Сівалава. Яе адзінагалосна выбралі не толькі бацькі і вучні, але і беларусы Вільні.

Будынак атрымалі ў канцы жніўня: голыя сцены, нават шкла ў вокнах не было. З дапамогай бацькоў, вучняў і настаўнікаў зрабілі касметычны рамонт, і пачаліся заняткі. Не хапае падручнікаў, літаратуры, няма сродкаў набыць іх. Але ёсць вучні і добры педагагічны калектыў. Спадарыня Святлана Рэдута -- выкладчыца рускай мовы і спадарыня Рома Яцкявічэне -- выкладчыца літоўскай мовы -- два завучы і добрыя памочнікі дырэктара. Кабінет завучаў, як і дырэктара, не наганяе страху. Яго не хочацца абысці бокам, а насупраць, многія лічаць абавязкам заглянуць туды, прывітацца, паведаміць нешта цікавае, падзяліцца асабістымі навінамі. У гэтым ёсць відавочнасць свабоды, дэмакратычнасці, дзеці лічаць школу сваім другім родным домам. Тут працуе шмат настаўнікаў-мужчын, што не часта бывае ў школах, шмат цікавых, цудоўных настаўнікаў. Алека Базюк і Зоя Уладзімірава -- настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, Данута Базар выкладае матэматыку і інфарматыку, Сяргей Вітушка -- гісторык, Паўла Саўчанка -- біёлаг і іншыя. У кожнага свая методыка выкладання. З дапамогай ведаў фарміруюць характары, каб вучні выйшлі адукаванымі людзьмі. У школе частымі гасцямі бываюць былыя гімназісты Віленскай беларускай гімназіі, госці з Мінска (Васіль Быкаў, Вінцук Вячорка), ладзяцца розныя вечарыны, прайшлі Тыдні беларускай мовы, літоўскай і замежнай, дзе вучні дэкламавалі вершы, чыталі творы пісьменнікаў, заўсёды бываюць выставы дзіцячых малюнкаў, адзначылі дзень гімназіі і ў гэты ж дзень адкрыўся ў школе беларускі музей. Працуюць гурткі.

Але ці ўсё так бязвоблачна ў жыцці спадарыні Г.Сівалавай? О не! Ёсць і памылкі, і сваркі, хоць і дробязныя. Але галоўнае зроблена: школа адкрыта, хаця шмат яшчэ цяжкасцяў будзе. Школа існуе толькі паўгода, як спадарыня Галіна гаворыць: "Нашаму дзіцяці толькі сем месяцаў". У беларускай школе вучыцца і сын Г.Сівалавай, раней Паўлік вучыўся ў літоўскай школе і быў лепшым вучнем, а цяпер ездзіць далёка, але ў родную школу.

Прафесія настаўніка ў школе паважаная. І ў гэтым прыклад -- сама дырэктар. Спадарыня Галіна Сівалава -- настаўніца, якая добра ведае беларускую літаратуру і не толькі беларускую, любіць тэатр, сочыць за сучаснай літаратурай, любіць жывёл і прыроду. Сустрэчы з ёю натхняюць, зараджаюць добрым настроем надоўга.

Прыгожы яна чалавек.

**Леакадзія МІЛАШ, настаўніца.**

Вільня.

# ЛІСТ ДА ЎСІХ

Розная барацьба ўнутры дзяржавы аслабляе кожную дзяржаву, у тым ліку і Беларусь. Вось добры спосаб прывучыць людзей валодаць беларускай мовай: адчыніць Беларускую краму, дзе, напрыклад, цукар будзе каштаваць у 10 разоў менш, чым у "рускіх" крамах. Кожны авалодае словам "цукар" замест рускага "сахар". І гэта лёгка зрабіць. Беларускія сталоўкі, рэстараны хай адчыняюць па гарадах з таварамі ў 2 разы таннейшымі, чым у Расіі. Усе пачнуць вывучаць беларускую мову.

Замежныя беларусы-каталікі вельмі багатыя, ім дапамагае папа рымскі і розныя багатыя людзі. Ім гэта лёгка зрабіць -- дапамагчы адчыніць такія крамы. А то ўсе яны толькі языком робяць нешта для Беларусі, але не справай. У газеце "Голас Радзімы" N 46 ад 13 кастрычніка 1994 года быў артыкул Радзіма Гарэцкага "Да суайчыннікаў на другі бок зямлі". Ён правільна зазначае, што сярод гэтых замежных беларусаў няма адзінства, існуе падзел на розных "крывічоў", "зарубежнікаў", прыхільнікаў БЦР, БНР і г.д. А чаму? Таму што яны дурні аблавухія, бо мараць вярнуць жыццё да XIY ці XYI стагоддзяў (павярнуць кола гісторыі назад), калі царква была дзяржаўнай і была "сьвятая інквізіцыя", калі людзей палілі на вогнішчы, лютаваў такі вуніят Ізафат Кунцэвіч (яго забілі ў Віцебску пры народным паўстанні). І што цяперашні беларускі ўрад зробіць зноў адну дзяржаўную царкву з беларускай мовай (пад прымусам, безумоўна) і на чале пастаавіць якога-небудзь замежнага "мітрапаліта" (самасьвята і палітыкана), як тое прапануе БНФ, і што гэтыя сябры БНР і БЦР стануць губернатарамі па гарадах Беларусі? Тут вашае ўпушчэнне: вы іх не вучыце правільнаму шляху. Гэта беларусы-замежнікі з былой Польшчы, дзе царква (каталіцкі касцёл) была дзяржаўнай. Яны (беларусы-незалежнікі ў ЗША і Канадзе) не дараслі да разумення, што ў XX стагоддзі царква аддзелена ад дзяржавы.

Адным словам, вам трэба прыняцца па-сапраўднаму вучыць іх.

Хачу зрабіць такую заўвагу: важнасць мовы -- гэта для інтэлігенцыі важна. А простаму чалавеку галоўнае не мова, а каб быў кавалак хлеба, а да кавалка хлеба яшчэ кавалак сала. Я сам з Віцебшчыны, у вёсках размаўлялі беларуска-рускім дыялектам. Імёны звалі па-беларуску, напрыклад, ніхто не казаў Анна, а Ганна, не казалі Стэфаніда, а Сьцепаніда. А калі траплялася якое рускае слова -- ніхто не звяртаў увагі, усе разумелі. І так цягнулася стагоддзі, хоць у школах вучылі па-руску. Я лічу проста шкодным весці вайну ці барацьбу між сабой за мову. Амерыка і Ангельшчына -- дзве асобныя краіны, а размаўляюць на адной мове. А Швейцарыя? Там тры мовы. Вось калі вы падымеце эканамічны стан Беларусі, кожны захоча авалодаць беларускай мовай.

Я лічу, што патрэбны быў бы хоць маленькі лісток толькі з звесткамі пра Беларусь: розныя цікавыя здарэнні. Гэта -- апроч газеты "Голас Радзімы". Адным словам, нешта маленькае, зусім апалітычнае. Я маю дачыненні з шмат якімі беларусамі ў Трэнтоне, ёсць нават з Пінска, Баранавіч, -- іх зусім не цікавіць ніякая палітыка наконт моў ці якая там палітыка Лукашэнкі і г.д. Іх цікавіць толькі навіна з Беларусі.

**Кастусь ЯКУБ.**

ЗША.

# НАРОД ДАЧАКАЕЦЦА ДНЯ ВАСКРАШЭННЯ

**АД АЎТАРА**

Равеснік Максіма Танка, распачынаў я літаратурную дзейнасць у тыя самыя гады, калі Польшча акупавала Заходнюю Беларусь, якую па традыцыі і цяпер называе "крэсамі".

Яшчэ будучы студэнтам, супрацоўнічаў я з "Беларускім Летапісам" Рыгора Шырмы, з літаратурным часопісам "Калоссе", "Шляхам Моладзі" ды іншымі органамі друку. На працягу дзесяткаў гадоў напісана мной каля тысячы вершаў, добрая палавіна якіх загінула. Уцалелая спадчына складаецца з паўтары сотні вершаваных твораў (у тым ліку апошняя паэма "Мондзінская балада"), каля дзесятка апавяданняў, манаграфія роднай школы -- Навагрудскай беларускай гімназіі ды каля сотні публіцыстычных нарысаў.

У галіне паэтычнай творчасці аўтар прытрымліваецца традыцыйных (клясычных) канонаў, якія змяшчаюцца ў словах: Праўда, Прыгажосць, адлюстраванне эпохі. Пераважным лейтматывам творчасці аўтар выкарыстоўвае падзеі мінуўшага хуткаплыннага жыцця, а таксама балючых сучасных праблем.

**Аляксей АНІШЧЫК.**



**Гэты здымак зроблены напярэдадні II Усебеларускага Кангрэса 26 чэрвеня 1944 года ў пакоі рэдакцыі часопіса "Узвышша", органа Беларускага культурнага згуртавання. У першым радзе (сядзяць) Юрка ВІЦЬБІЧ (рэдактар "Узвышша"), Ларыса ГЕНІЮШ, Кастусь ЕЗАВІТАЎ, Наталля АРСЕННЕВА, Янка СТАНКЕВІЧ; у другім радзе (стаяць) Аляксей АНІШЧЫК (Андрэй ЧЭМЕР), кампазітар Мікола ШЧАГЛОЎ-КУЛІКОВІЧ і Аўген КАЛУБОВІЧ. На стале відаць экземпляры першага нумара часопіса "Узвышша".**

**Андрэй ЧЭМЕР**

* * *

**Пад сцягам крывіцка-літоўскай пагоні**
**Мы цвёрда ідзём па шляху вызвалення.**
**З прадвечнай Радзімы ніхто нас ня згоніць,**
**Народ дачакаецца дня васкрашэння!**

**І "простае" мовы ня будзе чурацца**
**Ні ксёндз, ні вучоны, ні новыя ўлады.**
**І з верай, надзеяй**
**мы будзем змагацца**
**Супроць тых, хто -- здраднікі,**
**Хто -- казнакрады!..**

**Мы доўга чакалі з малітвай, пакорай,**
**Што знікне у нас ашуканства і гора,**
**Што высахне мора няшчасця і слёз,**
**Што праўду ў святыні ўстановіць**
**Х р ы с т о с . . .**

*Вільня, 1990.*

## ПАМЯЦІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**Пра тое -- што будзе,**
**Ніхто не згадае,**
**У цёмным тумане**
**Схаваны наш лёс...**
**Я помню цябе, як была маладая,**
**Як ты расцвітала**
**І талент твой рос...**
**Нястрымнаю бурай**
**Бяда наляцела,**
**Уздыбіла зямлю**
**І край наш -- вайна!**
**Захопнікі рвалі народнае цела,**
**Народную кроў**
**Выпівалі да дна...**
**Па небу няспынна**
**Луналі пажары.**
**Зямля чырванела**
**Ад мора крыві,**
**І дыму злавесныя чорныя хмары,**
**Зацміўшы свет сонца,**
**Над краем плылі...**
**Мы зносілі мужна**
**І здзекі, і мукі,**
**Аднак паміралі**
**Надзеі і сілы...**
**У многіх апалі здранцвелыя рукі,**
**Край родны усеялі**
**Густа магілы...**
**І ўсё ж падняліся**
**Нязломныя людзі.**
**Яны, ахвяруючы ўсім**
**І сабой,**
**Пад кулі падставілі ўласныя грудзі,**
**За праўду, свабоду**
**Рвануліся ў бой!**

## ВАЛЕЎКА

**Валеўка -- сяло старое;**
**Школа, цэркаў на гары,**
**А за цэрквай, за гарою**
**Дрэмле могільнік стары.**

**Сколькі светлых успамінаў**
**Вынеслі адгэтуль мы!**
**Многа хто памёр, загінуў,**
**Свецяць новыя дамы**
**Яркім электрычным светам,**
**Вуліцы зімой і летам**
**Поўняцца матораў гулам.**
**І спакойным, ціхім думам**
**Стала цесна на сяле.**
**Але дзецям -- весялей!**

**Толькі сэрцу жаль чагосьці,**
**Што мінула назаўсёды...**
**Дзе вы, святы, фэсты, госці!**
**Купальскія карагоды!..**
**Дзе вазок той і кабыла,**
**Што на фэсты нас вазіла!..**

**Знікла возера і млын.**
**Асака, сівец, палын,**
**Кураслеп, званец, аер**
**Разрасліся тут цяпер.**

**А вясной рагочуць жабы,**
**Ветрык лашчыцца халодны.**
**Летам валеўскія бабы**
**Беляць тут свае палотны.**

**Толькі Світазь недалёка**
**Светлым люстрам, як даўней,**
**Радуе людское вока,**
**Адпачынак нам дае.**

## НАДЗІ КАСТЭЦКАЙ

*(Апякунцы М. Забэйды-Суміцкага)*

**Надзенька! Бягуць гады,**
**І час няўхільна паглынае нас.**
**Мне помніцца, як вось тады**
**Спыніўся на хвілінку час,**
**І я глядзеў на тварык мілы,**
**Лавіў слоў, смеху пералівы,**
**І сэрца радасна так біла!**

**Васкрэсла маладая сіла,**
**І рвалася да вас нястрымна**
**Душа і цела... І мне гімнам**
**Гучала: Надзенька!.. Надзея!**
**А неўзабаве халадзее**
**Вакзал і Вільня. Бо бяз вас**
**Здалося: сонца свет пагас,**
**І нешта абарвалася ў душы...**

**А сёння... Не хачу грашыць,**
**Крыху паблеклі хварбы тыя**
**І тыя іскры залатыя,**
**Што ўзбурылі душу і сэрца...**

**Аднак, як родная, паверце!**
**Вы асталіся назаўсёды**
**У душы маёй... Мінаюць годы,**
**Падзеі віхрамі ляцяць,**
**А мне ваш позірк і усмешка**
**У вачах і сёння зіхацяць! --**
**Н а д з е я ... Беларуска... Чэшка...**

*Вільня, 1980.*

## МАЎЧАЦЬ НАРОДЫ...

**У бездань вечнасці кідаюць нас гады.**
**Знікаюць... Зноў будуюцца пасёлкі, гарады,**
**Пасля жахлівых войнаў мірацца народы,**
**Аднак няма і сёння шчырасці і згоды.**

**Зямлю, аблітую гарачым потам,**
**Чужак дратуе ненавісным ботам...**
**Народаў слаўных старажытную культуру**
**Захопнік топча і знішчае здуру.**

**Народы ж катаваныя, ўміраючы, маўчаць, --**
**На вуснах штык, ланцуг, жалезная пячаць...**

*Вільня, 1978.*

# ВЕРНІСАЖ БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА Ў МАСКВЕ

У Маскоўскай галерэі на Салянцы адбылася выстава работ беларускага мастака Уладзіміра Савіча.

Мастак вядомы за мяжой, яго работы знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Літвы, у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, галерэях Славакіі, Фінляндыі, прыватных калекцыях Аўстрыі, Германіі, ЗША, Францыі.

Карціны Уладзіміра Савіча, як гавораць мастацтвазнаўцы, "не для ўсіх". Вытанчаныя, інтэлектуальныя, яны разлічаны на рафінаванае ўспрыняцце.

Масква ж выстаўкамі разбэшчаная. Можа, таму і цягнецца да складанага і вытанчанага мастацтва.

Трапіць на вернісаж было даволі складана. Толькі па запрашальных білетах. Запрошаныя -- маскоўская прэса, мэтры культуры, нават палітыкі. Толькі ніхто з Беларускага пасольства ў Маскве "не ўдастоіў". Зрэшты, адсутнасць часта больш красамоўная за прысутнасць...

Толькі дзякуючы ўменню спонсараў выстаўкі -- нямецкай фірмы "Сіменс" -- таленавіты беларускі мастак атрымаў магчымасць выставіцца ў Маскве. У самы кароткі тэрмін быў выдадзены каталог работ, без якога нідзе ў свеце выстаўляцца не прынята. Вырашаны фінансавыя, арганізацыйныя пытанні. Тэхнічна. Прафесіянальна.

Прычым самой нямецкай фірме ад спансіравання культурных акцый, якія праводзяцца Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі, ніякай карысці.

Цяжка не згадзіцца з прафесарам, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі мастацтвазнаўцаў Аляксандрам Марозавым, які адзначыў, што для сусветнага прызнання мастаку неабходна, каб яго перш за ўсё цанілі і любілі на радзіме.

На сённяшні дзень прэстыж нацыі падтрымлівае толькі культура. Развіваць і берагчы яе павінны беларусы.

**М. ПАЛЯЖАЕВА.**

# *Р. БАРАДУЛІН У САМЫМ МАЛАДЫМ З ЛІТАРАТУРНЫХ МУЗЕЯЎ*

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася сустрэча з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным з нагоды 60-годдзя з дня яго нараджэння.**

**Музей гісторыі беларускай літаратуры, хоць і самы малады з літаратурных музеяў, але ўжо мае свае традыцыі, сваіх наведвальнікаў, тых, хто неабыякава ставіцца да справы адраджэння беларускай культуры, літаратуры, мовы. І на гэты раз музей запоўнілі юнакі і дзяўчаты -- вучні сярэдняй школы, што носіць імя Максіма Багдановіча, разам з настаўніцай Серадой Людмілай Фёдараўнай і навучэнцы медыцынскага вучылішча.**

**На сустрэчы з цёплымі словамі ў адрас Рыгора Барадуліна выступіла кандыдат філалагічных навук Таццяна Дасаева, якая сказала, што "паэзія Рыгора Барадуліна ратуе нашу моладзь ад акіяна бездухоўнасці і бескультур'я, у які штурхае яе наша сістэма".**

**Рыгор Барадулін падзякаваў усім выступіўшым за чуллівыя словы ў яго адрас. Потым у выкананні вучняў прагучалі вершы паэта, а навучэнцы медыцынскага вучылішча праспявалі песню на словы паэта "Трэба дома бываць часцей". І няхай выступленні гэтыя былі непрафесійнымі, але ішлі яны з глыбіні душы, ад усяго сэрца. З замілаваннем угляdaліся мы, супрацоўнікі музея, у твары юнакоў і дзяўчат, што сталі ў чаргу за аўтографам паэта. І як прыемна ўразіла іх тое, што Рыгор Іванавіч перш чым пакінуць свой аўтограф, асабіста знаёміўся з кожным.**

**Гэта сустрэча абудзіла ў сэрцах і душах моладзі пачуцці, якія будуць утрымліваць іх на шляху нацыянальнага адраджэння. А фонды музея папоўніліся новымі матэрыяламі, што падараваў Рыгор Барадулін. На кніжцы сваіх вершаў Рыгор Іванавіч напісаў: "Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры -- поўніцца, як соты!**

**17.III.95 г. Рыгор Барадулін".**

**Зінаіда КУЧАР.**



# БУДЗЕ ПОЛЕ

Усебеларускі жаночы фонд Ефрасінні Полацкай выступіў з ініцыятывай стварэння ў рэспубліцы спеўнага поля. Мэта яго стварэння -- захаванне нацыянальнай песеннай культуры, вяртанне песенных традыцый, распаўсюджванне духоўнай харавой музыкі і абарона яе ад агрэсіўнай музычнай прадукцыі.

У падтрымку ідэі фонду адгукнуліся практычна ва ўсіх абласцях рэспублікі. Ужо ўлетку пад знакам спеўнага поля ў Мінскай вобласці пройдзе традыцыйны фестываль "Нарачанскія росы". Падобнае мерапрыемства адбудзецца і ў Азярышчанскім краі Гомельшчыны. Ідэю таксама падтрымалі ў Міністэрстве культуры і друку рэспублікі, у Фондзе Сораса, у аб'яднанні беларусаў свету "Бацькаўшчына", у Фондзе нацыянальнага выратавання і ў іншых грамадскіх арганізацыях розных краін.

# НЕ ТРЭБА ПРЫБЯДНЯЦЦА!

Як на мой погляд, дык гэты твор варта было б адрасаваць школьнай і дзіцячай аўдыторыі. Ёсць у ім свая эстэтыка, ёсць хрысціянская надзея на выратаванне спакутаванага Палесся, гэтага былога райскага саду Беларусі. А вось экранізацыя чарадзейных казак Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня" таму ж В. Тураву амаль што не ўдалася. Тут хутчэй эцюды і вольныя кіноілюстрацыі да літаратурнага твора, чым закончаны фільм са сваёй паэтыкай і спецыфічнай для кінематографа рытмікай. Такая рэч больш пасуе да каго-небудзь з маладых вучняў В. Турава, чым да знакамітага майстра і прафесара.

Вялікае журы ў складзе дзевяці экспертаў большасцю галасоў прысудзіла дыплом рэжысёру Міхаілу Пташуку за кінафільм "Кааператыў "Палітбюро". На мой погляд, журы не памылілася. Гэтая трагікамедыя напалохала вопытнага маскоўскага кінакрытыка Ірыну Шылаву, хоць яна, мне здаецца, глядзела ўсе "фільмы жахаў" амерыканскіх кінаробаў ды іх расійскіх паслядоўнікаў. У сваім усхваляваным выступленні спадарыня Ірына сказала прыкладна так: не трэба рэжысёру прарочыць канец свету і ствараць свае варыянты Апакаліпсіса, бо такое прароцтва -- прэрагатыва Бога і Царквы. Не трэба ствараць свой вобраз пекла і палохаць ім публіку. Бо я, глядач, хачу, каб мастацтва ў фінале пакідала для мяне надзею. І. Шылавай запярэчыў яе калега, таксама маскоўскі кінакрытык Андрэй Шамякін. "Мы, — сказаў ён,— ужо зведалі "рай", нас доўга цешылі надзеямі на "светлую будучыню". Цяпер нам патрэбны цвярозы аналіз і пачуццё адказнасці за свае жыццё і перспектыву грамадства".

Відавочна, спрэчка вялася вакол "дыпламаванага" фільма М. Пташука. Памятаю яго прэзентацыю ў Доме літаратара. Элітарная публіка была ўражана фіналам, сапраўды як быццам бы апакаліпсічным. Але фільм -- зусім не постсавецкі Апакаліпсіс. Скарэй -- канцэпцыя цяперашняга быцця посткамуністычнага грамадства. Псіхалагічны стрэс, які выклікае фільм "Кааператыў "Палітбюро", ягоная сугестыўнасць запланаваныя рэжысёрскаю думкай і выяўляюцца кантрастнасцю паміж асноўнай часткаю, створанай паводле традыцый гратэскавага народнага смеху, і фіналам, дзе артыстычнае скамарошніцтва канчаецца трагічнай катастрофай. Вытокі такога метаду пачынаюцца ад міфалагічных архетыпаў культурнага героя і ягонага антыпода Трыкетэра -- дэманічнага, часцей камічнага двайніка. Трыкетэр -- гэта не толькі карнавальны альбо мастацкі персанаж, але і жывая рэальнасць грамадска-палітычнага жыцця. І калі ў фільме М. Пташука выведзена "трыкетэрскае" Палітбюро -- ад Сталіна да Брэжнева -- то гэты артэфакт адлюстроўвае рэальнасць савецкай гісторыі і яе "герояў".

Фільм М. Пташука пацвярджае вядомы афарызм: чалавецтва са смехам развітваецца з сваёй мінуўшчынай. Але калі б рэжысёр і ягоныя сааўтары абмежаваліся гэтым, то ў іх атрымалася б толькі лёгкая камедыя ў жанры травесціі. Аўтары дазволілі сабе нешта больш значнае: запрасілі публіку заглянуць у сваю будучыню. Іхняе папярэджанне, як мне здаецца, перакладаецца з мастацкага тэксту на мову логікі прыкладна так: калі народы і ўрады не адолеюць падпольнае, нярэдка амаль легальнае злачынства і гвалт, то іх чакае такі безнацыянальны, скарэй антынацыянальны фашызм, у параўнанні з якім савецкі бальшавізм і германскі нацызм будуць здавацца ўсяго толькі ліберальнаю пагулянкай па Еўропе.

Гэта толькі ідэя ў яе агульнай форме. Мастацкая канцэпцыя ўвасабляецца ў вобразах-сімвалах, якія нясуць у сабе мноства магчымых сэнсавых вызначэнняў. Тут, як і наогул у мастацтве, аўтар часам памыляецца ў сацыяльна-палітычных інтэрпрэтацыях свайго твора. М. Пташук, напрыклад, на прэзентацыі твора ў Доме літаратара сказаў амаль сур'ёзна, што ён стварыў "савецкі" фільм. Але ж у фільме зусім не савецкія эстэтычныя крытэрыі ацэнкі: замест герараізацыі "святая святых" дзяржаўна-партыйнага алімпа -- яго камічная выява ў гратэскавых формах. Гістарычны дыягназ адносна нядаўняга камуністычнага "раю" адназначны: вялікая драма і трагедыя закончылася трагікамічным фіналам.

* * *

Журы дакументальных фільмаў паглядзела каля сямідзесяці твораў рознай метражнасці (ад адной да сямі частак), якія ўмоўна і, на мой погляд, недакладна называюцца кінадакументалістыкай. Гэтая назва толькі фармальна аб'ядноўвае кінастужкі розных жанраў. Тут і кінапубліцыстыка, і навукова-папулярныя фільмы (бадай, што кіналекцыі па гісторыі і культуры), і кінарэпартажы, і музычна-этнаграфічныя фільмы, урэшце, мастацкія кінатворы малых жанраў, якія грунтуюцца на жыццёвых прататыпах і архетыпах нацыянальнай ды сусветнай культуры.

Натуральна, крытэрыі ацэнкі тут павінны быць розныя, адпаведныя жанравым дамінантам. Прывяду толькі адзін прыклад. Летась у Доме літаратара адбылася прэзентацыя фільма Міхаіла Ждановскага, Уладзіміра Мароза і Сяргея Пятроўскага "Успамін пра Міколу Равенскага". Адбылося кароткае абмеркаванне ў форме рэплік і заўваг. Стваральнікаў фільма папракалі (у тым ліку некаторыя музыказнаўцы) за тое, што іх твор бедны дакументальнымі матэрыяламі. Відавочна, што ні У. Мароз, ні М. Ждановскі з аператарам С. Пятроўскім не мелі магчымасці папрацаваць у Бельгіі і ЗША, дзе засталіся верагодныя дакументы і ўспаміны пра гэтага выдатнага беларускага музыку і патрыёта. Але ўявім, што сцэнарыст і аператар пабывалі за мяжой, запоўнілі час і прастору свайго фільма экспазіцыяй і тлумачэннем дакументаў. Відавочна, тады ў іх атрымаўся б фільм зусім іншага жанру: не музычна-лірычная элегія, якім бачым і чуем яго сёння, а навукова-дакументальны твор. Адпаведна памяняліся б крытэрыі ацэнкі. У навуковай дакументалістыцы не спатрэбіліся б мастацкія знаходкі аператара -- умоўная "дэматэрыялізацыя" пластыкі, прадметнага быцця, набліжэнне іх да музычна-элегічнай, "успамінальнай" танальнасці.

Сёння дакументальна-мастацкі кінематограф на пад'ёме. І гэта ў той час, калі публіцысты, прамоўцы, палітыкі, сацыёлагі, эканамісты загаварылі нас сваім апакаліптычным песімізмам: у нас, маўляў, крызіс, упадак, распад, інфляцыя -- і канца гэтым "егіпецкім карам" не відаць! Як на мой погляд, у краіне (і на ўсёй тэрыторыі былога СССР) адбываецца пераразмеркаванне ўласнасці, ужо вядомае нам па недалёкай мінуўшчыне. Калісьці была індустрыялізацыя, калектывізацыя і цэнтралізацыя, а цяпер -- люстэркавая сіметрыя колішніх падзей: прыватызацыя, індывідуалізацыя, дэцэнтралізацыя. А ў аснове таго і другога -- славутая экспрапрыяцыя. Усё іншае -- не аргумент, а толькі функцыя і вынік.

Але ў цяперашніх ахвярапрынашэннях (звычайна не за кошт саміх "жрацоў" гэтага абраду) ёсць і нешта пазітыўнае. Маю на ўвазе дэмакратызацыю, якая заўсёды ажыўляе грамадскае жыццё і публіцыстыку. Так было ў 1905--1907 гадах, у 1917--1920 гадах, урэшце, у першай палове 1920-х гадоў, калі ў нас адбывалася беларусізацыя дзяржавы і культуры. Тады кінематограф толькі пачынаўся, але нават у пару свайго юнацтва даў плён, у тым ліку беларускія па мове і зместу фільмы. Тады ж адбываўся газетна-часопісны бум. Сёння мы паўторна праходзім гэтую фазу, за выключэннем хіба што беларусізацыі, час якой -- яшчэ наперадзе.

Заканамерна і тое, што беларуская кінадакументалістыка аказалася бліжэй да крыніц нацыянальнай культуры, чым іншыя віды кінатворчасці, у тым ліку, на жаль, большасць ігравых рэгіянальна-беларускіх фільмаў. Тут справа не толькі ў адносна большай блізкасці мастацкай дакументалістыкі да нацыянальнага быцця, да беларускай "натуры" і беларускай літаратуры, чым ігравога кінамастацтва. Тут ёсць фактары арыентацыі на пэўныя каштоўнасці і на пэўную ідэалогію. Кінадакументалісты менш залежаць ад так званай "агульнасаюзнай прасторы". У ёй плённа працуюць беларускія пісьменнікі. Тут варта адзначыць ролю Уладзіміра Мароза — рэдактара і сцэнарыста многіх твораў.

Напомню, што напярэдадні Новага года нашы майстры мастацкай кінадакументалістыкі атрымалі адразу дзве дзяржаўныя прэміі: Зіна Мажэйка, Ніна Сава і Алег Шклярэўскі -- за цыкл музычна-этнаграфічных фільмаў ("Палескія калядкі", "Галасы вякоў", "Памяць стагоддзяў", "Палескія вяселлі", "Пранясі, Божа, хмару", "Крывыя вечары"); Міхаіл Ждановскі — за фільмы "Дарога да Курапатаў", "Жаўрукі Беларусі", "Успамін пра Міколу Равенскага". Цікава, што рэжысёр М. Ждановскі атрымаў літаратурную прэмію імя К. Каліноўскага, а этнамузыказнаўца З. Мажэйка -- Дзяржаўную прэмію ў галіне тэатра і кіно. Адбыўся пэўны сінтэз мастацтваў, узаемапранікненне яго розных відаў. Прэміраваныя дзяржавай фільмы М. Ждановскага "Успамін пра Міколу Равенскага", Ю. Лысятава і З. Мажэйка "Крывыя вечары" (Ю. Лысятаў ужо быў раней лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі) былі ў праграме нашай "Панарамы новага беларускага кіно". Журы далучылася да высокай дзяржаўнай ацэнкі гэтых фільмаў, хоць, на жаль, у нас -- меншыя магчымасці, чым у дзяржавы. Дакладней -- амаль ніякіх магчымасцей.

Нашаму журы прыйшлося вырашаць складаную задачу -- выбраць адзін твор (альбо цыкл твораў) з сямідзесяці, улічыўшы яго жанравую разнастайнасць. Зусім правільна ў такіх абставінах кіравацца эстэтычнымі крытэрыямі, улічваючы цэласнасць канцэпцыі твора, наяўнасць у ім арыгінальнай мастацкай ідэі, драматургіі, рытмікі дзеяння і канструктыўнай мелодыі, адпаведнасці стылю функцыянальнаму прызначэнню.

У полі зроку гэтых крытэрыяў некаторыя кінастужкі аказаліся толькі чарнавымі варыянтамі, напрацаваным матэрыялам для будучых твораў ("Міхаіл Савіцкі", С. Жыткевіча, "Трамвай нон-стоп" С. Лук'янчыкава, "Адрынуты" А. Алай, "Аранжавыя камізэлькі" Ю. Хашчавацкага і інш.). Цікавы матэрыял "рускамоўнага" фільма "Огонь, мерцающий в сосуде" (рэжысёр і сцэнарыст Д. Міхлееў), прысвечаны Бабруйскаму мастацкаму вучылішчу, сапсаваны прэтэнцыёзным тэкстам (падборка пад антычны верш-гекзаметр), спалучэннем узнёслага і жанрава-бытавога (банкецік у правінцыйным "стылі"). Эстэтычна адукаваным гледачом такая эклектыка ўспрымаецца ў камічным кантэксце -- як сяброўская пародыя. Ёсць хібы і ў іншых творах, але звычайна як непазбежныя страты ў межах мастацтва.

Журы адзначыла важкі ўклад у беларускую кінадакументалістыку рэжысёраў, аператараў і сцэнарыстаў, якія стварылі цыклы твораў, прысвечаных нацыянальнай гісторыі і культуры, яе выдатным героям і дзеячам. Маюцца на ўвазе фільмы В. Шэвялевіча "Кола лёсу" і "Адлучэнне" (пра М. Філіповіча), Ю. Лысятава "Аркадзь Смоліч", "Адвечныя званы" (пра М. Доўнар-Запольскага), "Дзядзька Уласаў", В. Цеслюка "БНР: Час звеставання", А. Канеўскага "Дрэва вечнасці", "Такі вось лёс" (пра артыстку Т. Мархель), В. Сукманава "Вечны выгнаннік" (пра пачынальніка беларускай літаратуры Яна Чачота), "Пад знакам пагоні", С. Гайдука "Вянок цярновы васількоў" (лёс выдатнай паэткі Л. Геніюш), "Самотная альба вершніка" (гістарычная роля беларускай шляхты), "За брамай забытых мелодыяў" (пра мастака Напалеона Орду), "Рэха збройнага чыну" (1920 год, Случчына), "Полацкія лабірынты", В. Кавалёва "Браты Ермаловічы", "Усяслаў Чарадзей", С. Галавацкага "Ля берага човен чакае мяне" (пра жыццё і творчасць У. Дубоўкі), Ю. Гарулёва "Сем бакоў квадрата" (традыцыі К. Малевіча і М. Шагала ў сучасным мастацтве), "Абразы Беларусі", В. Каралёва "Гетман найвышэйшы" (К. Астрожскі), С. Лук'янчыкава "Смутак" (творчасць Г. Вашчанкі і яго "малая Радзіма" ў чарнобыльскай зоне),

(Заканчэнне на 8-й стар.).

Заканчэнне.
Пачатак у № 14.

## ПІМЕН ПАНЧАНКА



**Вялікую страту панесла беларуская літаратура: 2 красавіка 1995 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр народны паэт Беларусі Пімен Панчанка. Перастала біцца сэрца чалавека, які ўсё сваё жыццё аддаў служэнню роднай Беларусі.**

**У некралогу, падпісаным дзяржаўнымі дзеячамі А.Лукашэнкам, М.Грыбам, М.Чыгіром, пісьменнікамі, дзеячамі навукі і культуры Я.Брылём, В.Быкавым, Н.Гілевічам, Я.Скурко (Максімам Танкам), А.Мальдзісам і многімі іншымі, гаворыцца:**

**"Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў Таліне ў рабочай сям'і. Яго бацькі, бедныя сяляне, змушаны былі ў пошуках заробку выехаць у Прыбалтыку. Але ўжо ў 1920 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь.**

**У 1934 годзе Пімен Панчанка скончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску, а пазней, у 1939-м, -- Мінскі настаўніцкі інстытут. Працаваў у школах Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне.**

**З 1939 па 1946 год жыццёвы лёс Пімена Панчанкі звязаны з нялёгкімі салдацкімі дарогамі. На франтах Вялікай Айчыннай вайны -- Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім -- ён змагаўся як мужны баец і палымяны паэт.**

**Пасля вайны Пімен Панчанка працаваў у рэдакцыях часопіса "Вожык", газеты "Літаратура і мастацтва", быў галоўным рэдактарам часопісаў "Советская Отчизна", "Маладосць", сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У складзе беларускай дэлегацыі прымаў удзел у рабоце XIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Ён -- ганаровы акадэмік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.**

**Першыя вершы Пімена Панчанкі з'явіліся ў 1934 годзе на старонках кіраўскай раённай газеты і альманаха "Ударнік". Яны вызначаліся юнацкай узнёсласцю і натхнёнасцю. За гады пленнай творчай працы Пімен Панчанка выдаў дзесяткі кніг -- вершаў і паэм, перакладаў, публіцыстыкі, успамінаў. Сярод іх "Упэўненасць", "Вераснёвыя сцягі", "Табе, Беларусь!", "Дарогай вайны", "Далёкія станцыі", "Тысяча небасхілаў", "Чатыры кантыненты", "Пры святле маланак", "Размова з наследнікамі", "Снежань", "Крык сойкі", "Вячэрні цягнік", "Млечны Шлях", "Маўклівая малітва", "Дзе начуе жаўранак", "Лясныя воблакі", "І вера, і вернасць, і вечнасць", "Торкі жолуд", "Неспакой" і многія іншыя.**

**Шырокае прызнанне атрымала творчасць паэта не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Ён -- лаўрэат Дзяржаўнай і Літаратурнай прэмій імя Янкі Купалы, Дзяржаўнай прэміі СССР.**

**Пімен Панчанка -- паэт яркага таленту, усёй сваёй творчасцю, жыццём знітаваны з народам, з якім ён да апошняга дыхання быў разам і ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў гады нялёгкай мірнай працы, і ў складаны, поўны супярэчнасцей наш час. Арыенціры яго паэзіі вельмі ясныя і дакладныя: гэта, як ён пісаў у аўтабіяграфіі, "праўда жыцця -- праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць..." І таму так бескампрамісна змагаўся ён паэтычным словам супраць хлусні, дэмагогіі, прыстасаванства, абыякавасці і таму так горача любіў свой народ і Радзіму, змагаўся за яе нацыянальнае адраджэнне.**

**Паэзія Пімена Панчанкі -- паэта-грамадзяніна, паэта-патрыёта, прасякнутая людскімі клопатамі і трывогамі, будзе заўсёды з намі.**

**Будзе жыць у памяці народнай вобліх Пімена Емяльянавіча Панчанкі, чалавека шчодрай, багатай душы, чыстага сумлення".**



Людзі таленавітыя заўсёды выклікаюць цікавасць. Вось і Таццяна Цімошкіна з Браслава, майстар па лазапляценню, здзіўляе разнастайнасцю сваіх захапленняў.

Пасля заканчэння браслаўскай школы паехала ў Рыгу і паступіла ў політэхнічны інстытут, адначасова скончыла курсы машыннай мастацкай вышыўкі. А потым зацікавілася і асвоіла тэхніку лазапляцення. Таццяна з тых людзей, чые інтарэсы і заняткі разнастайныя. Вось і яе захапленне водным турызмам -- гэта жаданне даказаць сабе, што чалавек можа вельмі многа. Яна ўдзельнічала ў паходах самай высокай катэгорыі складанасці.

Таццяна стала займацца аўтатрэнінгам. І вылечыла сябе ад сур'ёзнага захворвання. Асвоіла метад бескантактнага масажу і цяпер пры неабходнасці сама лечыць дачку Машу. Таццяна цікавіцца рознымі духоўнымі вучэннямі, верыць у існаванне і ўздзеянне на чалавека вышэйшых сіл, ведае духоўную сімволіку і часта выкарыстоўвае яе пры стварэнні сваіх работ. Побач з вышытымі каўнерыкамі ў яе ёсць работы філасофскія. Напрыклад, у адной з іх "Пад знакам агню" Таццяна паказвае свае адносіны да будовы свету і вышэйшых сіл. Контур яйка -- сімвал зараджэння жыцця, крыж -- сімвал будовы чалавека (вертыкаль -- матэрыяльная частка, гарызанталь -- духоўны яго бок). Усё гэта на фоне вертыкальна падаючага промня -- сімвала ўздзеяння вышэйшых сіл на чалавека.

Вось ужо шэсць гадоў, як Таццяна Цімошкіна вярнулася ў родны Браслаў. Яе асноўны занятак -- вытанчаная вышыўка і лазапляценне. На першы погляд, рэчы несумяшчальныя. Аднак гэтыя работы ўдаюцца Таццяне аднолькава добра.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таццяна ЦІМОШКІНА і яе работы з лазы; "Пад знакам агню" -- мастацкая машынная вышыўка.**

**Фота аўтара.**



# НЕ ТРЭБА ПРЫБЯДНЯЦЦА!

(Заканчэнне. Працяг на 7-й стар.).

М. Жданоўскага "З душою" (пра дырыжора Мінскага камернага хору І. Мацюхова), А. Чакмянёва "Жыццё маё -- кінематограф", В. Басава "Імгненні радасці", У. Бокуна "Імша па Купале", "Ніколі я не паміраў" (гісторыя трагічнай смерці Янкі Купалы), В. Жыгалкі "Спецперасяленцы", Ю. Марухіна "Партрэт на фоне замку" (пра знакаміты род Радзівілаў), Р. Ясінскага "Васількі за Бугам" (пра жыццё беларусаў у Польшчы), "Леў Сапега, канцлер", "Паланез для касінераў" (прысвечана памяці Т. Касцюшкі), "Невядомая вайна" В. Аслюка.

Шмат якія з гэтых твораў -- яскравыя, па-мастацку дасціпныя кіналекцыі па гісторыі і культурнай спадчыне нашай Бацькаўшчыны. Да іх павінна далучыцца шматлікая школьная і студэнцкая аўдыторыя. Лепш за ўсё, каб адпаведныя кафедры і агульнаадукацыйныя школы мелі іх у сваіх кінатэках. Гэтаксама я параіў бы гэтыя творы для замежных беларусістаў, палітолагаў, якія маюць дачыненне да Беларусі, яе культуры і палітыкі. Да паслуг тых, хто захоча пазнаёміцца з гэтымі творамі, беларускія кінематаграфісты выдалі Каталог фільмаў (1992--1994 гг.) з кароткімі анатацыямі, указальнікамі іх аўтараў, прадзюсераў, студый і фірмаў.

Дыплом "Панарамы дакументальных фільмаў" па маёй прапанове журы прысудзіла творам Сяргея Пятроўскага (ён аўтар у двух іпастасях -- рэжысёр і аператар) "Кола", "Край перакуленых нябёсаў", "Неруш", "Ой, лятала шэра перапёлка...", "Хутар". Мне падалося, што не ўсе ўдзельнікі "Панарамы" зразумелі наш выбар і, мабыць, той-сёй аднёсся да яго скептычна. Але я ўпэўнены: рэжысёрскае майстэрства С. Пятроўскага -- адкрыццё сёлетняй вялікай кінаімпрэзы. Простыя па сюжэту, ягоныя творы надзіва цэльныя і ўражлівыя па меладычнасці, рытміцы, урэшце, нацыянальныя па ментальнасці і агульначалавечыя паводле выяўленых архетыпаў.

Адначасткавы фільм "Кола" -- пра жанчыну-ганчара. Яна стварае цудоўныя гаршкі і глякі па тэхналогіі, вядомай на Беларусі з Х стагоддзя. Ганчар -- паэтычны вобраз і міфалагема Бога-Дэміурга, які стварыў чалавека з гліны і ўдыхнуў у яго жывую душу. Амар Хаям у сваіх рубаях называе стваральніка Сусвету Прадвечным Ганчаром. У фільме "Кола"апошняя санкцыя ганчарнай творчасці належыць грамовіку Перуну: ён пасылае маланку і навальніцу, якія "закаляюць" створаны рукамі беларускай жанчыны і выпрабаваны агнём у горне посуд.

Другі фільм С. Пятроўскага "Край перакуленых нябёсаў" мае дзве часткі (20 хвілін). Ён -- пра "родны кут" Васіля Быкава на Ушаччыне, пра возера з ягонага маленства. Там выдатны пісьменнік і народны трыбун, утомлены цяжкаю дарогаю, адпачывае душою. Бо кожны, хто захаваў ад дзяцінства чысціню душы, пацвярджае славуты афарызм Ф. Скарыны: "...Тако ж і людзі, ігдзе зродзіліся суць по Бозе, к тому месцу вялікую ласку імаюць". Адначасткавы фільм "Неруш" знаёміць нас з прыгажосцю беларускага драўлянага дойлідства XVII--XIX стагоддзяў -- унікальнай з'явы ў кантэксце славянскай і сусветнай мастацкай культуры.

З адначасткавага фільма "Ой, лятала шэра перапёлка..." пачынаецца біблейская тэма шматпакутнага Іова ў беларускім жаночым абліччы. Дарэчы, аўтар сцэнарыя гэтага і папярэдняга ("Край перакуленых нябёсаў") -- Рыгор Барадулін. Адзінокая нямоглая старая на забытым хутары -- жаночы, мякка-лагодны варыянт вобраза вядомага біблейскага пакутніка, які кінуў выклік небу і ў фінале "выйграў" на судзе Боскім. Яна не наракае на несправядлівасць лёсу, а толькі ціхмяна здзіўляецца, пытаючыся ў людзей: "А навошта ж мне гэтае жыццё?" Але прымае яго як абавязак, як малітву да Неба. І не страчвае любові да быцця, выяўляючы яе проста па-дзіцячаму мудра: ласкаю да ўсяго жывога. Да козачкі і курачак, якія жадаюць жыцця і радуюцца яму. Мелодыя песні, якая дала назву фільму, аб'ядноўвае і выяўляе сэнс гэтага элегічнага кінаапавядання.

Урэшце, трохчасткавы фільм "Хутар" ёсць своеасаблівая магістраль да ўсяго цыкла: усе яго тэмы тут вар'іруюцца, выяўляюцца ў жыццёвым лёсе беларускай сялянкі Леакадзіі Ермалёнак з хутара Рацюны на Браслаўшчыне. Яна ўжо немаладая ўдава, але ў росквіце творчых сіл як гаспадыня і народная мастачка-ткачыха. Зноў жа -- біблейскі (і нават дабіблейскі, антычны) архетып Добрага Пастыра ў спецыфічна славяна-беларускім, жаночым абліччы. Простыя, традыцыйныя для беларускай "прасялянскай" культуры сюжэты, вобразы і матывы тут заглыбленыя ў архетыпы сусветнай міфалогіі. Пастухамі і музыкамі былі антычныя Апалон і ягоны сын Арфей -- багі мастацтва. Паводле біблейскай кнігі Быцця, людскі род пачаўся з пастухоў Адама і Евы: Бог стварыў іх добрымі гаспадарамі над усімі жывымі стварэннямі. Іхні сын Авель, ахвяра зайздрасці Каінавай, быў пастухом авечак. Пастухамі былі родапачынальнікі яўрэяў Іосіф і Рахіль. Пастухом і музыкам быў да памазання на царства Давід, з роду якога нарадзіўся Ісус Хрыстос. Урэшце, сам заснавальнік хрысціянства сказаў пра сябе: "Я пастыр добры: добры пастыр аддае жыццё сваё за авечак" (Іаан 10:11). У каментарыях да "Песні песняў" Ф. Скарына ўбачыў у вобразе пастуха Хрыста, а ў вобразе пастушкі -- хрысціянскую царкву. Ісус Хрыстос запаведаў апосталу Пётру першасвятарства трохкратным даручэннем: "Пасі авечкі мае". Спадчыннікі апосталаў, хрысціянскія і яўрэі, носяць жазло -- сімвал духоўнага пастырства.

Такім чынам, вобраз пастуха ёсць універсальная міфалагема многіх народаў, розных рэлігіяў і цывілізацыяў, спрадвечны архетып культуры. У сусветнай міфалогіі пастух -- звычайна мастак, музыка. А гераіня фільма "Хутар" -- гаспадар, гаспадыня і мастачка ў адной асобе. Урэшце, гэты фільм яшчэ пра вернасць адзінай і непаўторнай любові. (Добра, што ў беларускай мове ёсць слова "любоў" побач з "каханнем"). Фільм "Хутар" -- пра тую любоў, аб якой сказаў апостал: "Любоў ніколі не знікае, а вось прароцтвы -- і тыя счэзнуць, і мовы змоўкнуць, і веда адменіцца..." (1 Карынф. 13:8).

Сёлетні кінематаграфічны марафон доўжыўся цэлы тыдзень. Было выказана пажаданне праводзіць "Панараму новага беларускага кіно" штогод. Дзякуй Богу, беларускае кіно зусім не збіраецца паміраць. Як на добры лад, яно не павінна было б пакідаць экраны кінатэатраў, дзе сёння запанаваў, як ужо гаварылася, банальны кітч з далёкага і блізкага замежжа. Між тым у нас ёсць свая кінапрадукцыя рознай эстэтычнай вартасці, але амаль у кожным выпадку ў межах мастацтва. Верагодна, Саюзу кінематаграфістаў варта было б мець свае кіназалы як калектыўную ўласнасць, забяспечаную падтрымкай дзяржавы і грамадства. Як на маю думку, тэрмінова патрэбна вярнуць Мінску і абласным цэнтрам кінатэатры дакументальнага і навукова-папулярнага кіно.

Хаос у сферы культуры -- небяспечны, абсалютна недапушчальны!

**Уладзімір КОНАН.**

Марцін КОЎЗКІ

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

Нясмела хацелася немагчымага -- праваліцца скрозь зямлю.

Нясмелая мара -- хай будзе, як было, -- а якая нязбытная!

Няхітры занятак -- рассякаць рукамі паветра, але як таленавіта гэта робяць некаторыя дырыжоры, сэрца замірае.

Павучэнне: ускараскаўся, скажы: "Не зваліўся", пляснуўся, скажы: "Навучыўся".

Падрахунак: ведаў, куды з чым, як з кім, каму што, што да чаго, а што з таго!

Памылкі маладосці ў аўтабіяграфіі відаць былі па арфаграфіі.

Парадокс часу: час ляціць, як мне гаманіць, і паўзе мухаю, калі слухаю.



Парк Горкага ў Мінску вясной.

Фота Вольгі КАНОЙКА.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 955. Падпісана да друку 10. 4.1995 г.